

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 48 (13580)

23 — 29 лістапада 1992 года

Кошт 3 рублі.





















## НЕ ПРАСПІЦЕ ЗІМУ!

## ПАДПІСКА-93: ЗАМІЖ ПАСЛЯСЛОЎЯ

# ПАСТАВІЛІ Ў КУТ "ЧЫРВОНКУ"

Вось і закончылася падпісная кампанія. На ніве беларускага Адраджэння зноўку вырасла многа бур'яну, зацвіла свірэпа, а на жыта няўрод — будзе зноў нішчымніца. Што рабіць? Хто вінаваты? Пытанні... пытанні...

Тут, браточкі, як у тога амерыканца, у каго кішэня шырокая, той і ў Прэзідэнтах. Бог не роўна дзеле. "Чырвонка", вядома, не мела мажлівасці развешваць на людных сталічных вуліцах лозунгі кшталту "Гори-сияй, моя "Звязда", не мела раскошы плаціць паштавікам прэміі па выніках падпіскі, як тое рабіла "Рэспубліка", не трапіла і ў прэстыжныя каталогі замежнай краіны Расіі — куды нам "со свиным рылом да в калашный ряд"? Застаецца спадзявацца на "Саюздрук".

Скажы мне, хто твой "Саюздрук", і я скажу, ці моцным будзе твой саюз з ім. На Віцебшчыне — дзвесце два кіёскі, у якія, паводле слоў Таісы Сцяпанаўны Шыраковай, намесніка начальніка абласнога прадпрыемства "Саюздруку", паступіць налета аж дзвесце дваццаць экземпляраў "Чырвонкі". Не трэба быць Лабачэўскім, каб вылічыць, колькі цэлых і колькі дзесятых нашае газеты паступіць у кожны кіёск. Праўда, рынак мудрэйшы за любога матэматыка, налета ён мяркуе добра падскараціць кіёскі (пачыталі і хопіць) і, такім чынам, на брата выйдзе па два экземпляры. На развод!

У Лепелі — чатыры кіёскі. Пакуль што. Падыходжу, цікаўлюся "лёсам" газеты.

Кіёск нумар тры (раён аўтавакзала). Кіяскёр Гаас Алена Паўлаўна.

— Паступаюць "Чырвонай змены" 1-2 экземпляры.

— А колькі змаглі б рэалізаваць?

— Не болей чым пяць. Пакупнік у нас прыезджы, у дарогу пачытаць бярэ ў асноўным рускамоўныя выданні.

Кіёск нумар два (ля гарадскога рынку). Мацельская Алена Іванаўна.

— Калі адзін, калі два экземпляры прыходзіць... Прадаць? Штук пяць можна...

Добра. На рынку гандлярам не да газеты. А што ў цэнтры?

Кіёск нумар адзін. Плошча Свабоды. Ляйшкова Аляксандра Ільінічна.

— Прыходзіць не болей як дзве газеты. І ляжаць. Бяруць толькі, калі з праграмай... Рэалізаваць? З праграмай — экземпляраў дзесяць, не болей...

— ?!!

І нарэшце, кіёск нумар чатыры (раён гідрамеліярацыйнага тэхнікума). Засека Марыя Андрэеўна.

— А дзе падзелася, скажыце, ваша газета? Раней прыходзіла добра, зараз — толькі адзін экземпляр. У мяне пастаянны пакупнік бярэ... А што, прынеслі? (Думае, што газеты ў мяне ў дыпламаце). Давайце, давайце. Газета цікавая. Штук дзесяць смела прадам.

А што, мо і праўда заключыць дагавор са сваім дыпламатам і — на базар. На "Саюздрук" спадзявайся, а... казаў той Райкін, "два пишем, семь на ум пошло...". Чатыры кіёскі, ды па пяць экземпляраў (а то і па дзесяць). Па пяць экземпляраў, ды на дзвесце два кіёскі... то на адной Віцебшчыне. "Мечты, мечты, где ваша сладость, мечты ушлі, осталась...".

Раённае аддзяленне "Саюздруку". Пакуль ацяпляльныя батарэі раздумваюць, награвацца ім альбо пачакаць, начальнік і бухгалтар пахукваюць на рукі, захутваюцца ў паліто.

— Газета, самі ведаеце, не вельмі папулярная, — распавядае Ала Пятроўна Міснік, — а ў нас — цвёрды заказ. Не рэалізуеш — спісвай за свой кошт. Да таго ж, прыходзіць яна нерэгулярна. Адзін раз шаснаццаць, а часам чатыры прыйдзе на раён... Па дзесяць экземпляраў на кіёск?! Хто вам такое сказаў? Кіяскёры? Цікава-цікава! Ну, што ж, паспрабуем павялічыць заказ.

А на горадзе знаёмую настаўніцу сустрэў.

— Выпісала сёлета "Чырвонку", — пахвалілася. — Дык ледзьве выпісала. На пошту прыходжу, а там яе ў каталозе няма і ніхто цаны не ведае. Добра, я кагадзе ў газеце вычытала. Кажу, выпісвайце, і ўсё тут!..

Вось вам і пасляслоўе.

Уладзімір МІХНО.



### Ф.А. БАЧЫЛА

Упаў сокал з партызанскага бору — памёр Хведар Бачыла. Зажурыліся магутныя хвоі ў лясах пад Мінскам. Яны помняць яго маладым, бо і самі ў вайну былі маладыя.

Хведар Бачыла — адзін з вядомых радавых партызанскага войска Беларусі, безразважна адчайная галава, чыстая душа, як незамутнёная крыніца. У свае дзевятнаццаць гадоў ён прайшоў ужо агонь, ваду і медныя трубы. Не кожнаму гэта пад сілу. Адтуль і да апошняга свайго імгнення на зямлі ён заставаўся простым і мужным, даступным, высакародным, таварыскім, як і належыць быць сапраўднаму чалавеку.

Наўрад ці знойдзецца куток на Беларусі, дзе б ні пабываў фотажурналіст "Чырвонай змены" Хведар Бачыла. Нямала дарог мы скалясілі, пратупалі з ім разам. І вось яго апошняя дарога да жалобнага долу, да жоўтага жвіру. Нізкі паклон табе, вечны супакой тваёй душы, дарагі Хведар Апанасавіч. Бывай, Федзя!

Уладзімір ПАЎЛАЎ.

Калектыў штотыднёвіка "Чырвоная змена" смуткуе з прычыны заўчаснай смерці былога супрацоўніка Фёдара Апанасавіча БАЧЫЛЫ і выказвае спачуванне яго родным, блізкім, сябрам.

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ОРША

### ПЕРАКУЕМ НА АРАЛЫ МЯЧЫ

Нядаўна гэты невялікі беларускі горад зрабіў свой дастойны ўклад у справу ліквідацыі міжнароднай напружанасці. Гарадскія ўлады разам з міліцыяй правялі паспяховую аперацыю па раззбраенню кабінетаў пачатковай ваеннай падрыхтоўкі ў школах, вучылішчах, тэхнікумах. Мера вымушаная, прадыктаваная значным ростам у горадзе падлеткавай злачыннасці. Зброю ўбралі. Хто ведае, можа, зараз падлеткі будуць высвятляць свае адносіны з дапамогаю шпагі і рапіры?

### "ЯНКА СЕЯЎ — ЛЮДЗІ ЖАЛІ..."

Гэтым радком аднаго з яго вершаў Купала як бы прадвызначыў значэнне сваёй творчасці для цэлага народа. Сеяў Янка і на аршанскай зямлі. Тут, у маляўнічым урочышчы Ляўкі, стварыў паэт лепшыя свае лірычныя вершы.

Не так даўно купалаўскаму музею-запаведніку "Ляўкі" споўнілася трыццаць гадоў. Тысячы людзей пабывалі тут за гэты час не толькі з Аршаншчыны ды іншых беларускіх зямель, але з розных куткоў былога Савецкага Саюза.

### ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ...

Час ляціць імкліва, зусім як цягнікі па аршанскае чыгунцы і нікому іх не спыніць, хіба рабочыя, не вытрымаўшы шалёнай інфляцыі, некалі выйдуць зноў ды лягуць на рэйкі...

Спяшаючыся да рынку, забыліся мы пра чалавека, які ў свой час спыняў у Оршы цягнікі цаною жыцця, каб наша жыццё працягвалася. Забыліся – ды не ўсе. Сёлета – 50 гадоў з дня гібелі Канстанціна Заслонава. У Оршы адкрылася выстава "Вобраз Заслонава ў выяўленчым мастацтве". На ёй былі прадстаўлены работы беларускіх мастакоў. І не толькі...

(УЛ.ІНФ.).

* * *

Рашучую барацьбу з курыльшчыкамі і прагульшчыкамі праводзяць у сярэдняй школе № 17 горада Гомеля. З'яўленне на школьнай тэрыторыі з цыгарэтай у "зубах" пагражае парушальніку штрафам у суме 100 рублёў. Для тых, хто любіць бавіць "вольныя" дзянькі не за партай, а каля тэлевізара, таксама існуюць "жорсткія" законы. Прагульшчыкі пазбаўляюцца грашовай датацыі на харчаванне. Дарэчы, адзін прагул "каштуе" цэлых 20 рублікаў!

Дырэктар школы Вольга Мікалаеўна Шапавалава задаволена: павысілася дысцыпліна, дый у калідорах пасвяжэла.

* * *

Сурдалагапедычны кабінет і магазін па рэалізацыі слухавых апаратаў працуе па вуліцы братоў Лізюковых пры абласной кансультацыйнай паліклініцы. Яны абслугоўваюць насельніцтва горада і вобласці. Месячны план выконваецца на 130–150 тысяч рублёў. Пенсіянеры і дзеці да 16 год атрымліваюць слухавыя апараты бясплатна.

* * *

Гомельскі завод пускавых рухавікоў запланаваў перамясціць усе асноўныя ўчасткі вытворчасці на новую пляцоўку. На старой жа застануцца і будуць дзейнічаць розныя рамонтна-дапаможныя службы. Зараз ідзе мадэрнізацыя электроднага цэха.

* * *

Амаль у два разы скараціў выпуск кандытарскіх вырабаў гарадскі хлебазавод № 2. Попыт на салодкія "тавары" прыкметна знізіўся. Сёння не кожны чалавек можа выкласці за адзін фігурны торт больш за 200 рублёў.

* * *

Гомельскія будаўнікі ўзводзяць па вул.Катоўскага царкву для хрысціян Адвентыстаў Сёмага дня. Прыгожы двухпавярховы будынак мае добрую планіроўку. Зала з кафедрай займае 200 квадратных метраў. Усе сталярныя вырабы выкананы з дубу.

Падрыхтавала Ганна АТРОШЧАНКА, (г.Гомель).

### ПЛЕНУМ ЦР БСДГ

Сёмага лістапада гэтага года адбыўся чарговы пленум Цэнтральнай Рады БСДГ.

Удзельнікі пленума ўшанавалі хвілінай маўчання памяць старшыні ЦР Грамады М.Ткачова. Былі прыняты пастанова "Аб увекавечанні памяці М.Ткачова" рашэнне аб устанаўленні дзвюх стыпендый імя М.Ткачова студэнтам-гісторыкам Беларускага і Гродзенскага універсітэтаў і выданні сумесна з БелЭН зборніка публіцыстычных артыкулаў М.Ткачова, а крыху пазней і збору яго твораў.

Было вырашана правесці другі з'езд Грамады ў Мінску з 18 па 20 снежня 1992 года.

Удзельнікі пленума абмеркавалі сацыяльна-палітычнае становішча ў нашай краіне, што склалася пасля забароны Вярхоўным Саветам Беларусі правядзення рэферэндуму. Выканкам Грамады атрымаў даручэнне прыняць рэзалюцыю аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў нашай рэспубліцы. Сярод удзельнікаў пленума былі распаўсюджаны два варыянты праекта будучай праграмы БСДГ.

На пленуме адбыўся прыём у Грамаду новых сяброў і прынята віншаванне з нагоды абрання новага прэзідэнта ЗША.

(Ул.інф.).

### Віншуем!

25 лістапада свой 70-гадовы юбілей адзначыла Ефрасіння Леанідаўна Бондарава, беларускі кіназнаўца, кінакрытык, заслужаны дзеяч навукі РБ. Не адно пакаленне журналістаў (у тым ліку і чырвоназменаўцаў) прайшло школу майстэрства Ефрасінні Леанідаўны. Цяпер яе выхаванцы самі ўжо сталыя журналісты і педагогі, але, мы ўпэўнены, усе яны ў святочны дзень 25 лістапада ўсе кветкі і ўсе словы падзякі аддалі Настаўніку, Майстру і Жанчыне. Шчасця, здароўя і поспехаў Вам, шаноўная Ефрасіння Леанідаўна!

Чырваназменаўцы.

### САЦЫЯЛІЗМ З РУЖАМІ

У мінулую суботу ў Мінску прайшла другая рэспубліканская канферэнцыя "Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць".

Сказаць, што канферэнцыя ўнесла новыя фарбы ў палітычны спектр рэспублікі, нельга. Гаворка на ёй ішла пра праведзеную работу, заслухоўваліся даклады выканаўчых органаў. І ўсё ж гэта пасяджэнне мела і свае асаблівасці. Кіраўнікі руху на гэты раз не спяшаліся вешаць ярлыкі "ворагаў народа" на сваіх палітычных апанентаў. Зменшылася сярод выступаючых і колькасць прыхільнікаў "жалезнай рукі". Запрошаны на пасяджэнне старшыня Каардынацыйнага савета грамадскіх арганізацый С.В.Гайдукевіч параіў РСПС не траціць сілы на барацьбу з БНФ, таму што гэта карысна цэнтрыстам. На яго думку, патрэбна шырэй інфармаваць насельніцтва аб дзейнасці сацыялістаў, больш гібка падыходзіць да палітыкі і не забывацца пра магчымасці зарабіць папулярнасць на памылках урада. Наступны пункт парадку дня – прыняцце сімволікі РСПС – выклікаў буру самых розных прапаноў. Нарэшце дэлегаты выбралі палотнішча чырвонага колеру з залатымі літарамі назвы руху ў верхнім куце ля дрэўка і эмблему – ружу з надпісам: РСПС.

Аляксандр СУХАВЕРХІ.

## Стоп-факт

### КАМУНІСТЫ ЗАВУЦЬ. ПОЙДЗЕМ?

На мінулым тыдні адбылася Мінская абласная ўстаноўчая канферэнцыя Партыі камуністаў Беларусі. На ёй былі заслуханы дзве справаздачы – аб бягучым моманце і аб новай партыйнай праграме. З дакладаў стала вядома, што ў Мінскай вобласці сёння дзейнічаюць 21 раённая і дзве гарадскія арганізацыі камуністаў, якія аб'ядноўваюць больш за дзве тысячы арганізаваных прыхільнікаў камуністычных ідэй (а ўвогуле, як сцвярджалі на канферэнцыі, іх намнога больш, але не ўсе яны пакуль што зарыентаваліся).

На канферэнцыі прагучалі словы за ўзнаўленне вялікай дзяржавы, за адмену рашэння аб прыпыненні дзейнасці КПБ.

У час канферэнцыі быў прыняты зварот да камуністаў (які заклікае да больш рашучых дзеянняў), выбраны абласны камітэт партыі і яго палітсавет, узначалены Васілём Новікавым.

### СНІДу — ЗАСЛОНУ!

Па ініцыятыве Рэспубліканскага цэнтра СНІДу ў нашай рэспубліцы з 23 лістапада па 2 снежня ўпершыню праводзіцца дабрачынная акцыя "Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІДу". Ініцыятыву цэнтра падтрымалі Беларускі ДАВТ оперы і балета, Альтэрнатыўны тэатр, Мастацкі музей.

Пад час акцыі жадаючыя могуць убачыць выступленні розных калектываў нашай рэспублікі. У рабоце акцыі прымаюць удзел таксама дзеячы культуры і мастацтва з Расіі і Украіны.

У рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў пройдзе Тыдзень аўтарскага кіно Адэскай кінастудыі "Эксперымент". Вядомыя кінарэжысёры правядуць творчыя сустрэчы, пакажуць свае лепшыя работы.

А 1 снежня ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце адбудзецца студэнцкі фестываль.

Асноўная мэта акцыі – паказаць, што праблема СНІДу – гэта праблема ўсяго грамадства.

### "УСХОДНІЯ ТАРГІ" Ў МІНСКУ

25–26 лістапада ў Мінску адбылася штогадовая міжнародная выстава "Усходнія таргі". Выстава праводзілася ўжо ў трэці раз. Першая прайшла ў Польшчы, у Лодзі, другая (у красавіку гэтага года) у Мінску.

На "Усходнія таргі" былі запрошаны фірмы з Германіі і Аўстрыі, Францыі і Польшчы, Чэха-Славакіі і Скандынаўскіх дзяржаў, краін СНД і Балтыі, Грузіі і Малдовы.

У праграме выставы нямала мерапрыемстваў, адным з якіх быў конкурс замежных і айчынных інвестараў на права будаўніцтва на міжнароднай аўтастрадзе Мінск–Масква сервіснага комплексу ў раёне горада Крупкі.

Франц ЛЯВІЦКІ.

Старонку вядзе Франц ЛЯВІЦКІ, тэл. 32-13-04.

*Бацькі і дзеці. Працяг*

# ТРАЦЕЙСКАЕ ПАКАЛЕННЕ

*...Чытаю ў сачыненні ўчарашняга школьніка: "Беларускі народ нагадвае статак жывёл". Слухаю пагардлівае выступленне паэта сярэдняга ўзросту: "Назавіце мне народ, які адрокся ад мовы і забыўся на сваю гісторыю".*

Што ж адбываецца з беларускай маральнасцю? Асобная кучка палітыкаў і ўладальнікаў камунікатыўных каналаў беспадстаўна абражае цэлы народ! З моладзі гадуецца кагорта грозных суддзяў без кодэкса гонару. Прэсінгам наіўнага крытыканства плодзіцца абыякавасць. Значная частка маладых выконвае ролю трутняў-назіральнікаў: заварылі кашу, самі і расхлёбвайце! І ні кроку: ні ў армію, ні на завод, а пра сяло нават і згадкі няма. Сувязь з сучаснасцю і грамадствам для многіх стала вымярацца толькі формулай: купі-прадай.

Самае цікавае, што сучасныя прапаведнікі ад палітыкі (лепш ад палітыканства) усе свае пастулаты імкнуцца падмацаваць самым святым імем — імем народа!? Дык дзе тут кінута каінава семя? Зразумела, калі ў натоўп шпурляць словы-абвінавачванні, як запалкі ў сухое сена, то эмоцыі могуць выбухнуць нават на плошчы Незаробак, поўны дзікунскі развал сацыяльнай сферы, жабрацкі адпачынак, пагрозу застацца беспрацоўным, якая цікуе за юнакамі і дзяўчатамі кожны дзень. Чалавек стаў падзёншчыкам і ня ведае, што будзе заўтра.

А заўтра будзе вось што! Скарачаюцца наборы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, працоўныя месцы на заводах. Беспрацоўе грукае ў дзверы! Моладзь будзе ўсё больш і больш люмпенізавацца. Сацыяльная раўнавага ўжо парушана і працэнт злачыннасці няўмольна ўзрастае.

Беспрацоўе, рабаўніцтва, маральнае разбэшчванне — ужо цяпер гэта не моўныя крытэрыі, а жахлівыя з'явы сучаснага жыцця. Прыхватызатары, бізнесмены, прадпрымальнікі пра гэта не гавораць. Іх больш турбуе адваёўванне манапольнасці на эксплуатацыю дармавой працоўнай сілы.

моладзь — працоўная сіла — капітал.

Патрэбен тэрміновы хаўрус усіх маладзёжных груповак, цесныя кантакты з прафсаюзамі і рознымі партыямі, каб пазбегнуць палітычнай тузаніны і скіраваць намаганні на ўтаймаванне эканамічнай разрухі і ўсеагульнага збяднення.

Ды толькі новыя партыі маўчаць пра выхаванне моладзі. Ды і што скажаш пра маральна-палітычнае, працоўнае, этычнае і эстэтычнае, патрыятычнае і г.д. выхаванне. Крый божа! Гэта ж камуністычныя пастулаты!..

Але запытайся ў маладога немца пра асноўную жыццёвую каштоўнасць: ён адкажа — праца. Амерыканскі юнак добраахвотна пойдзе ваяваць за свой сцяг ажно ў Ірак, а японец у патрыятычным экстазе можа зрабіць сабе харакіры за свой востраў.

Мы ж апошнім часам забыліся, што моладзь неабходна вы-

*Дэпутаты розных узроўняў і палітычных накірункаў несупынна сцвярджаюць: беларусы апалітычныя, нерашучыя, абыякавыя... Агідна ўсё гэта слухаць, бачыць, перажываць! Сродкі масавай інфармацыі ўвогуле выкінулі народную тэматыку са свайго ўжытку. Быццам існуе толькі Алімп, а ўнізе поўзаюць непрыкметныя мурашкі — людзі.*

залежнасці. І крыкуны здолеюць стаць каліфам на гадзіну, а сродкі масавай інфармацыі, абагульняючы падзеі, выдаткуюць паведамленне пра амаль што ўсенароднае ўзрушэнне.

Гэта наўмысны падман. "Кайф" зловяць некалькі дзесяткаў, хай соцень, можа і тысяч! Але сотні тысяч, мільёны юнакоў і дзяўчат будуць "уколваць", каб зарабляць сабе на хлеб, ды яшчэ ствараць капіталы "бізнесменам"-спекулянтам.

Юнацтву прапанаваны дзікунскі запавет: узбагачайся любым шляхам. Паглядзіце, як у цэнтры Мінска маладыя дзецюкі і лянівыя юныя кабеты абселі ў малюсенькіх кіёсках з агромністымі лічбамі на цэнніках ля крадзеных тавараў. На кожнай плошчы нашых гарадоў тусуюцца людзі з незлічонымі клункамі і торбамі. Не, яны збіраюцца не на працу ў падшэфны калгас, а на базар у Польшчу, Турцыю, Кітай і яшчэ чорт ведае куды адпраўляюцца полчышчы спекулянтаў. Якія юныя ў іх твары!

Гэта дрыгва ўцягвае нашу моладзь, калечыць яе душу і пазбаўляе будучыні. Але ніхто не гаворыць пра тое, што ўсё маладое пакаленне спекулянтамі стаць не зможа. Усё роўна большая частка юнакоў і дзяўчат вучыцца і будзе вучыцца, як працавала на заводах і ў калгасах, так надалей будзе вырабляць тавары і вырошчваць хлеб.

Наша моладзь павінна ведаць, што прапанаваны рынак — гэта жорсткая эксплуатацыя ейнай працы. Таму што створаны ёю прадукт асядае ў тых жа крамках, плыве няспынным патокам за мяжу, нават вяртаецца ў рукі вытворцы, але ўжо па скурадзёрскай цане. А гэта ўжо двайная эксплуатацыя! З боку дзяржавы і з боку спекулятыўнага прадпрымальніцтва.

Моладзь нават не заўважыла, што "добрыя дзядзькі" пад прыгожымі шыльдамі падкінулі ёй страшэнную дарагоўлю, мізэрны




Так, шаноўная моладзь Рэспублікі Беларусь! Замест сацыяльнай роўнасці праклятага сацыялізму вам ужо падсунулі першую пілюлю таксама праклятага капіталізму — эксплуатацыі чалавека чалавекам. Толькі падсаладжанай непрыкрытай прагай да нажывы нашых местачковых і заморскіх мільянераў.

Працэс маёмаснага раздзялення моладзі цяпер будзе развівацца вельмі бурна. Паразітуючая частка нуварышаў яшчэ больш будзе абагачацца, прыбіраючы да рук грамадскі прадукт, а працоўнае падрастаючае пакаленне рэспублікі, прыціснутае галечай, будзе прадаваць свае працу і жыццё.

І тут, калі не здзіўляе абыякавасць да маладзёжных праблем дзяржаўных структур, то чаму яны выпалі з поля зроку сацыяльных арганізацый? Таго ж Саюза Моладзі Беларусі. У яго ж ёсць пачэсная і глабальная задача — арганізацыя грамадзянскай абароны падрастаючага пакалення ад рыначнага продажу па формуле: хоўваць. За такі промах гісторыя нас пакарае. Гавораць так: паміраць збірайся, але жыта сей!

Такім чынам, беларуская моладзь на раздарожжы. І яна павінна зразумець, што за свой лёс, а тым больш за будучыню, трэба змагацца. Гэта ў тым сэнсе, што сваю самую асноўную прывілею — ісці на змену старэйшага пакалення і будаваць сваю Айчыну нельга перадаць анікому, а тым больш перакласці на чужыя плечы. Гэта прысуд гісторыі — прайсці свой адрэзак часу.

У самы апошні час з'явілася раптоўна яшчэ адна небяспека — моладзь не цэніць і не шануе жыццё: забойствы, самазабойствы, рабаўніцтва са смерцю чалавека з мэтай нажывы. Па рэспубліцы зменшылася колькасць шлюбаў, усё менш і менш нараджаецца дзяцей...

Мы кінулі камень у сваіх дзяцей і ў сваю будучыню. Ён вернецца да нас бумерангам.

**Алег СЛУКА,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

## ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

Пасля перапынку вярнуўся ў залу пасяджэнняў парламент. Дзесятая сесія дванаццатага склікання Вярхоўнага Савета Беларусі працягвае сваю работу. Раніцай, 24 лістапада, у парламента было 60 неразгледжаных пытанняў. Паралельна аднаўленай сесіі на плошчы Незалежнасці сабралася грамада. На гэты раз грамадзянскую акцыю зарганізаваў Саюз афіцэраў Беларусі. Вайскоўцы падкрэслілі, што не хочуць, каб іхнія цяжкасці вырашаліся за кошт іншых слаёў насельніцтва. Пікетчыкі выказваліся за далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, па іншых палітычных і эканамічных праблемах.

Нечаканай стала адстаўка дэпутата Сяргея Навумчыка з пасады сакратара Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правах чалавека. Відаць, у парламентарыяў былі свае прычыны ўсміхацца на запальчыва-пакрыўджаны тон Сяргея Іосіфавіча. Спадара Навумчыка авальная зала ўвішна адпусціла на радавую дэпутацкую дзейнасць. Ніжэй змяшчаем вытрымку са стэнаграмы сесіі з выступам Сяргея Навумчыка.

"НАВУМЧЫК С.І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Маё выступленне будзе кароткім. Два гады назад, калі была абрана і створана Камісія па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі, то я, як абраны вамі на пасаду сакратара гэтай камісіі, бачыў сваю мэту ў тым, каб стварыць заканадаўчыя гарантыі для існавання прынцыпаў свабоды слова, свабоды інфармацыі, але відавочна, што гэтыя прынцыпы і ідэі былі варожыя для большасці з вас.

Вось ужо некалькі сесій запар ні Прэзідыум, ні Вярхоўны Савет...

СТАРШЫНЯ. Сяргей Іосіфавіч, я вам зраблю заўвагу. Варожымі не могуць быць прынцыпы, тыя, якія зацверджаны ў Канстытуцыі. Я прашу вас не рабіць такіх заяў.

НАВУМЧЫК С.І. Ва ўсякім разе супярэчлівыя з прынцыпамі большасці дэпутатаў. Вось ужо некалькі сесій запар ні Прэзідыум, ні Вярхоўны Савет не ўключаюць у парадак дня сесіі праект закона аб свабодзе інфармацыі і, пагадзіўшыся з магчымасцю манапалізацыі амаль што ўсяго перыядычнага друку Саветам Міністраў, Вярхоўны Савет адмаўляецца прыняць адпаведныя заканадаўчыя акты і адпаведныя пастановы.

Акрамя таго, адмаўляючы мільёнам грамадзян у правядзенні рэферэндуму, Вярхоўны Савет, на маю думку, парушыў іх правы на палітычнае выяўленне, удзел у кіраванні дзяржавай і пайшоў пры гэтым далей. Нягледзячы на мае, як сакратара Камісіі па галоснасці, і выступленні дэпутатаў апазіцыі, прыняў шэраг законаў, якія фактычна легалізуюць умяшанне ў асабістае жыццё грамадзян.

З самага пачатку свайго існавання БНФ заяўляў, што ўлада сама па сабе не з'яўляецца для нас самамэтай, а толькі інструментам для паляпшэння жыцця і правядзення дэмакратычных працэсаў. З самага пачатку свайго ўтварэння Беларускі народны фронт заяўляў таксама, што палітыка ніколі не будзе на карысць народу, калі яна не абапіраецца на мараль. Пасля таго, як Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адхіліў правядзенне рэферэндуму, асабіста для мяне, як члена апазіцыі, стала немагчымай прафесійная работа ў гэтым Вярхоўным Савеце, таму я прашу вызваліць мяне ад абавязкаў сакратара Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека і хачу сканцэнтраваць сваю далейшую дзейнасць на рабоце з выбаршчыкамі і ў апазіцыі."

"ПАС"
падрыхтавала
**Алена АГІБАЛАВА,**
рэдактар аддзела
па пытаннях палітыкі.

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!



## Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Тэлефануйце: 32-13-04



## АЎТОБУСЫ АМАЛЬ ПУСТЫЯ. АЛЕ І ГЭТА ВЫГАДНА



*"Хацелася б даведацца, як адбілася павышэнне цэн на праезд у аўтобусах на загружанасці, запаўняльнасці машын?*

**В.КАРОЛЬ, г.Мінск".**

Як паведаміў Міхаіл Васільевіч Багушэўскі, намеснік дырэктара аўтавакзала "Цэнтральны", што ў Мінску, падаражанне зрабіла тое, чаго і чакалі: людзі сталі ездзіць менш. Пасажыраў паменела дзесьці ў паўтара раза. Але паколькі цэны на білеты "падскочылі" ў два разы, то нейкая "капеечная" выгада ўсё ж такі ёсць. Грошай, адным словам, транспартнікам хапае. Пакуль.

Маршруты засталіся ўсе, але колькасць рэйсаў зменшылася.

## ХАЧУ СЛУЖЫЦЬ. ВОСЬ ТОЛЬКІ Я — ЖАНЧЫНА.



*"Мне 19 год. І я хацела б служыць у войску. Што мне трэба для гэтага зрабіць, куды звярнуцца, якія дакументы аформіць?*

**Наташа Р., Мядзельскі р-н".**

Цікавае пытанне. Звычайна звяртаюцца людзі, якія хацелі б "адкруціцца" ад арміі, а вы — наадварот. Але гэта ўжо, як кажуць, ваша справа.

Як паведамілі ў арганізацыйна-мабілізацыйным упраўленні Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, жанчыны служыць могуць (і такія жанчыны ёсць). Для гэтага неабходна знайсці такую вайсковую часць, дзе вы хацелі б служыць і камандзір якой згодзен прыняць вас. Ён афармляе адпаведны дакумент, з якім вы накіроўваецеся ў ваенкамат па месцы жыхарства. А там ужо звычайныя медкамісіі і г.д. — і вы ўжо ў войску.

Адразу вас возьмуць на два гады, а потым — як самі захочаце. Так што служыць можна. Галоўнае, каб жанчыне было не менш чым дзевятнаццаць і не больш за трыццаць пяць гадоў (вы яшчэ можаце трапіць), бяруць незамужніх і не маючых дзяцей.

## БЫЎ "ЗЯЛЁНЫ" — СТАЎ...



*"Раней Мінск лічыўся адным з самых "зялёных", самых чыстых гарадоў Савецкага Саюза. А як справы ў гэтых адносінах абстаяць сёння?*

**Р.ВАРАНЕЦ, г.Мінск".**

Зараз справы ў экалагічным пытанні, як і ўвогуле ва ўсім жыцці, пагоршыліся. У Камітэце па экалогіі паведамілі, што ў параўнанні з іншымі буйнымі гарадамі СНД Мінск знаходзіцца ў чацвёртай дзесятцы па валавому выкіду ў паветра розных вытворчых адходаў (як бачым, не вельмі дрэнна). Але затое ад забруджвання транспартам беларуская сталіца церпіць вельмі шмат (і знаходзіцца на чацвёртым месцы). Гэту праблему можа, напэўна, вырашыць толькі метро.

Са сцёкавымі водамі і ўвогуле дрэнна (не хапае магутнасцей для ачышчэння). Пагоршылася і якасць пітной вады (але да атруты ёй, на шчасце, яшчэ далёка). Вось такія справы.

А для даведкі паведамім: самым брудным горадам у СНД з'яўляецца Нарыльск, а ў Беларусі — Навапалацк.

## НА ЧЫМ ЖЫВЁМ?



*"Адкажыце, калі ласка, праз колькі год пасля апошняга пахавання могілкі можна знішчыць? Ці можна на месцы могілак будаваць якія-небудзь аб'екты? І ці ёсць такія аб'екты ў Мінску?*

**В.АСТРЭЙКА, г.Мінск".**

Як паведаміў Уладзімір Паўлавіч Калодка, начальнік упраўлення прадпрыемстваў камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкама, не існуе ніякіх афіцыйных правілаў наконт знішчэння могілак. Калі ж яны старыя і там даўно нікога не хавалі, то могілкі могуць закрыцца, а магілы пахаваных па просьбах сваякоў пераносяцца ў іншае месца.

Што датычыць другога пытання, то тут таксама няма ніякіх указанняў. А значыць, будаваць на месцы могілак можна, хоць і непрыгожа гэта, мякка кажучы.

А якія ёсць у Мінску аб'екты, пабудаваныя на месцах могілак? На гэта пытанне, на жаль, адказу мы не знайшлі. Даведаліся толькі, што, напэўна, ёсць. А якія і дзе — невядома.




## ЖАДАЕЦЕ ЛЯТАЦЬ? КАЛІ ЛАСКА!



*"Ці існуе ў Мінску аэраклуб? І калі існуе, як у яго трапіць?*

**У.БУРЭЙКА, г.Мінск".**

Так, існуе. Мінскі аэраклуб знаходзіцца ў пасёлку Баравая.

Як паведамілі ў аэраклубе, трапіць у яго могуць усе жадаючыя (калі толькі не падвядзе здароўе і вы падыходзіце па ўзросту). На гэты год прыём ужо скончаны, а на наступны будзе праводзіцца прыкладна ў жніўні-верасні 1993-га. На лётнае аддзяленне прымаюцца людзі з семнаццаці гадоў, а на аддзяленне парашутыстаў — з шаснаццаці.

Неба чакае вас.

## СМАЧНА ЕСЦІ!



*"Чуў, што нядаўна зменены дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання. Ці так гэта і дзе ў Мінску можна праверыць прадукты на радыеактыўнасць?*

**В.ІВАШКА, г.Мінск."**

Адказвае галоўны дзяржаўны санітарны ўрач г.Мінска В.М.Чалноў.

З 21 кастрычніка 1992 года замест рэспубліканскіх кантрольных узроўняў (РКУ-90) уведзены "Рэспубліканскія дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў цэзію і стронцыю ў харчовых прадуктах і вадзе (РДУ-92)", зацверджаныя Міністэрствам аховы здароўя РБ. У параўнанні з ранейшым утрыманнем радыенуклідаў цэзію ў малацэ і натуральнамалочнай прадукцыі дапускаецца не больш за 111 Бекерэляў на літр замест 185; у хлебе і хлебапрадуктах — 185 Бк/кг, замест 370; у бульбе — 370 Бк/кг замест 592. У горадзе дзейнічае дзяржаўны і ведамасны кантроль за выкананнем гэтых нарматываў, функцыяніруюць наступныя грамадскія пункты кантролю: на базе ўсіх раённых і абласной санэпідстанцый; па пр.газеты "Правда", 30 (ЖЭС-73); пр.газеты "Известия" (ЖЭС-84); па вул.Бялецкага, 20 (ЖЭС-108); па вул.Прытыцкага, 108; на МПА "Гарызонт"; ПА "Белвар"; на заводах імя Арджанікідзе, "Ударнік"; у МДМІ, Інстытуце народнай гаспадаркі; у НДІ АН РБ; БНТЦ ІРБ "Белрад"; таксама адчынена 20 пунктаў незалежнага радыеметрычнага кантролю на базе сярэдніх школ № 1, 2, 10, 16, 17, 198, 40, 54, 65, 68, 100, 103, 108, 119, 131, 158, 160, 173, 182, 67.




Прынятыя меры накіраваны на зніжэнне дозы ўнутранага апраменьвання насельніцтва.

## СТАНЕ МЕНШ КІЁСКАЎ. АЛЕ НЕ КАМЕРЦЫЙНЫХ



*"Цікава, колькі кіёскаў "Саюздруку" ў г.Мінску і ці праўда, што іх колькасць будзе змяншацца?*

**Т.ВАСІЛЕВІЧ, г.Мінск".**

Нялёгкія часы настаі зараз для "Саюздруку". Растуць цэны на транспарт, на электраэнергію. Як паведамілі ў гарадскім прадпрыемстве "Саюздрук", газетных кіёскаў у Мінску 320. Але, на жаль, колькасць іх можа зменшыцца. Нерэнтабельныя кропкі будуць закрывацца.




## СВЯТЫЯ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ



*"Нядаўна мы адзначалі 1000-годдзе Праваслаўнай царквы на Беларусі. А ці ёсць у нас свае святыя?*

**Т.РАКАВЕЦ, г.Мінск."**

Свяціцель Міна, епіскап полацкі (1105—1116). Прападобная Еўфрасіння Полацкая (1110—1173). Благаверны Міхал (Расціслаў), князь смаленскі (1126—1168). Прападобны Марцін Тураўскі (1120—1170). Свяціцель Дыянісій, епіскап полацкі (1166—1182). Свяціцель Кірыла, епіскап полацкі (1169—1182). Свяціцель Лаўрэнцій, епіскап полацкі (1182—1194). Свяціцель Ігнацій, епіскап полацкі (к.1197—к.1210). Свяціцель Аўраам Смаленскі (1172—1222). Прападобны Яфрэм Смаленскі (канец XII ст.—1238). Мучанік Меркурый Смаленскі (пач. XIII ст.—1238). Прападобны Елісей Лаўрышаўскі (II пал. XII ст.). Прападобная Харытына, княжна літоўская (І пал. XIII ст.—1281). Свяціцель Сымон, епіскап полацкі (пач. XIII ст.—1289). Благаверны Фёдар, князь смаленскі (1240—1299). Благаверны Канстанцін, князь смаленскі (XIII ст.). Мучанікі Антоній, Іаан, Яўстафій Віленскія (пач. XIV ст.—1347). Благаверны Андрэй, князь смаленскі (1360—1390). Прападобны Сымон, архімандрыт смаленскі (к.1351 да 1392). Свяціцель Міхал, епіскап смаленскі (1383—1402). Благаверны Глеб, князь смаленскі (XIV ст.), Прападобная Ульяна Гальшанская (к. 1534 — к.1550). Прападобная Софія, княжна слуцкая (1575—1612). Прападобнамучанік Афанасій Брэсцкі (1597—1648). Прападобнамучанік Макарый Пінскі (пач. XVII ст.—1678). Мучанік Гаўрыіл Заблудаўскі (1684—1690). Свяціцель Сымон, мітрапаліт смаленскі (пам. 1699).

ЗАЎВАГА: у дужках пазначаны вядомыя даты жыцця або епіскапства(праўлення)

**Паводле часопіса "Голас часу" (Лондан).**



**На пытанні адказвалі: Сяргей ВІШНЕЎСКІ, Франц ЛЯВІЦКІ, Алесь ПАЛЫНСКІ.**

# МАЎЧАННЕ ЗАЛАТОЙ РЫБКІ



## Пайшла бабка да сіняга мора...

Пажылая жанчына, стоячы перад дзвярыма магазіна "Акіян", падзялілася з суседкай па чарзе жаданнем купіць пару селядцоў. Дзверы адчыніліся — і наведвальнікі кінуліся да прылаўкаў займаць чаргу — давалі акуня. Агледзеўшы залу і не заўважыўшы селядцоў, пенсіянерка няспешна накіравалася да выхаду. Сумны і задуменны выраз твару адлюстроўваў думкі жанчыны: "Прыйдзецца есці бульбу сухама".

Колькі старых людзей увайшлі сёння з раніцы ў рыбныя магазіны і аддзелы з надзеяй купіць штосьці таннае на вячэру? Колькі з іх вярнулася дамоў з пустымі рукамі, наракаючы на ўрад за непавагу да сябе і на старасць за бездапаможнасць? Вядома, апрача селядцоў, ёсць і іншая рыба, але падумайце, ці можа пажылы чалавек на мізэрную пенсію купіць кілаграм камбалы па 110 рублёў або за 75 карпа другога гатунку? Праўда, калі вам пашанцуе знайсці магазін, дзе прадаюць свежазамарожаны мінтай па 39 рублёў за кілаграм, і калі чарга за ім будзе налічваць менш як трыццаць чалавек, то вы маеце шанц наладзіць сабе сапраўдны банкет...

Гэты маленькі эпізод з нашага жыцця нарадзіў пытанне: "Куды падзелася "Кілька" і "Стаўрыда" ў таматным соусе"? Памятаеце, гэтыя кансервы былі любімым ласункам студэнтаў, пенсіянераў, інвалідаў. І наогул, дзе дастатак рыбных прадуктаў,нават не замежны, а наш, савецкі, калі чалавек мог купіць хоць і не першай свежасці рыбу, але па кішэні?

## Рыба даражэй за мяса

Адным з магутнейшых рыбных прадпрыемстваў у былым Саюзе лічыўся Мінскі халадакамбінат па перапрацоўцы, захаванню і рэалізацыі рыбных тавараў, здольны штодзень выдаваць 30 тон прадуктаў. Так было да распаду СССР, калі камбінат застаўся адрэзаным ад рыбных басейнаў. У выніку вытворчасць у параўнанні з мінулым годам склала 57 працэнтаў.

— Мы працуем толькі на завозімай, (у асноўным з Мурманска і Уладзівастока) акіянічнай рыбе,— тлумачыць дырэктар камбіната М.І.Фаменка, — калі раней Белрыбпрамзбыт, зараз перайменаваны ў асацыяцыю, праз Маскву цэнтралізавана пастаўляў сыравіну, то цяпер прадпрыемства атрымала самастойнасць і само клапоціцца аб сваёй жыццяздольнасці. Практычна ўсе дагаворы на пастаўку сыравіны заключаны праз пасрэдніцкія арганізацыі, якія зарабляюць на гэтым восем працэнтаў. Выплачвае іх у выніку пакупнік магазіна. Тры гады таму кілаграм свежазамарожанай траскі каштаваў нам 55 капеек, зараз у сто разоў больш. Рыба стала даражэй за мяса. Таму ўзніклі праблемы з рэалізацыяй. На сённяшні дзень у нас на прадпрыемстве ляжыць 46 тон гатовай прадукцыі — 17 назваў. Вы бачылі ў магазіне такі асартымент? Нягледзячы на тое, што ў Мінску 150 магазінаў, раздаць прадукты цяжка. Бо гандаль іх проста не хоча браць. Ім бы хутчэй атрымаць прыбытак...

— З сыравінай зусім дрэнна,— падключаецца да размовы інжынер-тэхнолаг Т.В.Трус.— Таму закрылі цэх, дзе рыхтавалі паўфабрыкаты для дзіцячых сталовых, шпіталяў. Крыўдна, бо на нашым абсталяванні трэба імкнуцца зрабіць як мага больш, а тут...

Вось ужо сапраўды грымасы рынку. Насычанасць прылаўка рыбнымі прадуктамі мінімальная, а буйнейшы камбінат працуе напаўсілы. Засмучае тое, што прадпрыемства не можа знайсці выйсце з такога становішча. З аднаго боку хранічны недахоп сыравіны, з другога — прадукты не знаходзяць пакупніка. Дастаць сыравіну сваімі сіламі немагчыма — пастаўшчыкі патрабуюць аплаты наяўнымі, якіх у рыбнікаў няма. Прыходзіцца браць тавар у "дзялкоў", а тут выбару няма — што даюць, тое і бяром. Нават загадзя ведаючы, што гэты гатунак рыбы не пойдзе. Інакш прыйдзецца скарачаць рабочы калектыў, які, дарэчы, паменшыўся ўжо на 80 чалавек. Каб не выганяць людзей на вуліцу, адміністрацыя спяшаецца наладзіць кантакты з замежнымі партнёрамі, у прыватнасці, з датчанамі, якія з-за недахопу таннай рабочай сілы на радзіме згодныя прывозіць крэветак на камбінат для чысткі, а гатовую прадукцыю забіраць назад, на радзіму. Чорная работа? Але што зробіць, наракае дырэктар, людзей жа трэба чым-небудзь заняць.

## Міністр — усяму галава

Некалі Мінскі холадакамбінат і Мінскі аптовы рыбны халадзільнік былі ў роднасных адносінах і жылі разам пад дахам старога Белрыбпрамзбыту. Але час, як вядома, разбурае нават самыя моцныя сувязі, і цяпер яны ледзь ківаюць адзін аднаму пры сустрэчы. А, між тым, справу яны робяць адну — пастаўляюць рыбныя тавары ў магазіны. Толькі камбінат трапіў у няміласць да гандлю, таму што яго дарагая вэнджаніна дрэнна купляецца. Халадзільнік жа насупраць — танная марожаная рыба — тавар ходкі. За восем месяцаў гэтага года "аптавік" адгрузіў гандлю 7427 тон рыбы і 312 тон селядцоў.

— Попыт задавальняе нас поўнасцю. Хіба толькі гандаль марудна грошы пералічвае, але гэта нашы праблемы,— упэўнена адказвае дырэктар халадзільніка Валянціна Апанасаўна Пархоменка,— аб'ём продажу скараціўся, але мы нагонім упушчанае. Непакоіць іншае: халадзільнік настолькі свабодны, што калі здарыцца няшчасце, то і звярнуцца не будзе куды. На маю думку, у рэспубліцы неабходна ўтварыць міністэрства, якое б прадстаўляла інтарэсы рыбнікаў на ўрадзе. Перш за ўсё неабходна засцерагчы сябе ад непрыемнасцей з боку пастаўшчыкоў і ўтварыць уласны флот у водах Расіі, улоў якога ішоў бы поўнасцю ў рэспубліку. У гэтым і дапамога міністэрства. Па-другое, — сцвярджаюць вучоныя, — выратаванне беларусаў у рыбе. Асабліва яна неабходна дзецям. Месяц таму мы пералічылі пастаўшчыку чорнай ікры ў Астрахань тры мільёны рублёў. Грошы аселі ў дзяржаўным банку "Расія" і да пастаўшчыка не дайшлі. Крэдыт, які мы ўзялі ў беларускім банку пад працэнты, расце. Пытанні такога характару павінна вырашаць міністэрства.

Валянціна Апанасаўна, безумоўна, у нечым мае рацыю. Але думаць, што міністэрства — універсальная панацэя ад усіх няшчасцяў рыбнікаў, таксама не варта. Міністраў у рэспубліцы шмат, а справы ідуць усё горш. Трывогі кіраўнікоў зразумелыя: самастойнасць, якая звалілася як снег на галаву, што і казаць, толькі пашкодзіла справе. "Широка страна моя родная"— паспрабуй аб'ездзі ўсіх пастаўшчыкоў, дамоўся, ды яшчэ і бойся памыліцца, а то прыйдзецца вывозіць на звалку няякасную рыбу. Зараз прадпрыемства паступова накоплівае вопыт работы ва ўмовах рынку. Сказаць, што рыбнікі сядзяць склаўшы рукі, нельга, але рыбы ўсё ж мала, не кажу ўжо пра асартымент. Магчыма, палепшыць становішча зможа ўтварэнне ўласнага флоту? Калі гэта і адбудзецца, то, на жаль, не хутка. А пакуль трэба вырашаць неадкладныя пытанні. І дапамагчы ў гэтым павінен урад. Чаму грошы ад беларускіх прадпрыемстваў месяцамі "ляжаць" у банку "Расія"? Урад пра гэта добра ведае, але да гэтага часу змен не відаць. Што гэта: боязь старэйшага брата або ж бяздзейнасць вышэйшых органаў рэспублікі? Акрамя іх, наўрад ці хто зможа вырашыць пытанне станоўча, бо рыбнікам яно не пад сілу.

## Больш свабоды

— Мне здаецца, што рыбы менш у параўнанні з мінулым годам не стала, але шанцаў павялічыць аб'ём яе продажу больш,— разважае выконваючая абавязкі загадчыцы магазіна "Акіян" Л.Н.Арэхава.— Трэба даць свабоду магазінам, каб яны маглі заключаць дагаворы напрамую. Халадзільнік рабіць гэта забараняе, бо мы ў яго ў падпарадкаванні і, пастаўляючы тавар, ён накручвае сабе працэнты.

— Людміла Мікалаеўна, на халадакамбінаце зараз ляжыць 17 назваў прадукцыі, у вашым магазіне такога асартыменту няма.

— За дзень магазін прадае, напрыклад, сем кілаграмаў смажанай камбалы, 40 мойвы, больш заказваць нельга — тэрмін рэалізацыі смажанай рыбы — 24 гадзіны.

## Сажалка ўсхадзілася

Быццам рыбы ва ўзбоўтанай вадзе сажалкі, плаваюць камбінат, халадзільнік, магазін і ніяк не могуць адшукаць адзін аднаго, дакладней, не хочуць, таму што кожны вырашае праблемы па-свойму. Адны ў асобе міністэрства, другія, дабіваючыся самастойнасці, трэція чакаюць дапамогі з-за мяжы.

Іх дзеянні напамінаюць спробы тапельца ўхапіцца за саломінку. Спяшацца з вывадамі і крытыкаваць не варта — не па сваёй волі трапілі яны ў водаварот. Непаразуменне выклікае іншае: напамінаючы герояў байкі, яны,быццам лебедзь, рак ды шчупак, цягнуць воз у розныя бакі. Ці не лепш паспрабаваць зноў жыць адной сям'ёй? Размаўляючы з кіраўнікамі прадпрыемстваў, бачыў — перажываюць за справу, нераўнадушныя да калектываў і праблем пакупнікоў. Дык няўжо так цяжка павярнуцца тварам адзін да аднаго, абмеркаваць праблемы, вырашыць, што цяпер больш важнае, якія структуры ствараць, каб перабору з сыравінай не было.

Дабіваючыся ўтварэння міністэрства, халадзільнік і не думаў далучаць да работы камбінат, спадзеючыся на свае сілы. А ці зможа ён у адзіночку зрушыць гару і колькі часу на гэта спатрэбіцца? Магазін хоча самастойнасці, бо гэта — залог удачы. Так, самастойнасць патрэбна да разумных межаў, але каб не перарасла яна ў анархію і не стала тормазам у справах.

Аляксандр СУХАВЕРХІ.

---

*Сакрэты дзелавога поспеху*

## ЯК НЕ ПРАГАДАЦЬ?

Тэст

**Сёння многія задумваюцца над пытаннем "А ці не заняцца мне бізнесам?" Ці ўжо зрабілі пэўныя крокі ў гэтым напрамку. І як у некаторых аказалася – не зусім паспяховыя.**

**Таму, перад тым, як усур'ёз заняцца прадпрымальніцтвам, трэба добра задумацца: "Ці спраўлюся я з гэтай справай? Ці гатовы я да таго?" Прыведзены ніжэй тэст дапаможа вызначыць вашу псіхалагічную гатоўнасць да гэтага адказнага кроку.**

**Адказваць трэба "Так" або "Не".**

1. Ці лічыце вы, што ваш жыццёвы вопыт дае падставу вам спадзявацца на поспех у прадпрымальніцтве?
2. Вы вызначылі, якія паслугі (тавары) можаце прапанаваць на рынку?
3. Як вы думаеце, прапанаваныя вамі паслугі (тавары) будуць карыстацца попытам?
4. Ці лічыце вы, што ў вас будзе мала канкурэнтаў?
5. Ці ведаеце вы, чым будзеце займацца, калі ваша справа раптам акажацца стратнай?
6. Ці разумееце вы, што ў выпадку правалу ваша вяртанне на папяровую працу псіхалагічна непажадана?
7. Ці ёсць у вас партнёры, якім вы абсалютна давяраеце?
8. Ці з'яўляюцца вашы партнёры дастаткова кампетэнтнымі ў выбранай галіне?
9. Як вы лічыце, ці зможаце вы ў сваёй дзейнасці заўсёды прытрымлівацца закона?
10. Калі вам прапануюць справу, якая дае імгненна 200—300 працэнтаў, ці задумаецеся, перш чым згадзіцца?
11. Ці схільны вы заўсёды ўважліва правяраць дзелавую інфармацыю?
12. Ці збіраецеся вы абмяжаваць свае патрабаванні пры выкарыстанні першага прыбытку?
13. Ці падтрымліваюць вашае пачынанне родныя (жонка або муж)?
14. Ці ўмееце вы даражыць сваімі партнёрамі?
15. Ці зможаце вы ў выпадку ўдачы не хваліцца сваімі даходамі?
16. Ці падрыхтаваны вы і ці ўмееце працаваць па 10—16 гадзін у суткі?

### Ацэнка вынікаў

**Калі вы адказалі "Так" на 16–12 пытанняў, то дастаткова падумалі пра сваю будучыню і гатовы да ўдараў лёсу і да яго падарункаў.**

**Калі ў вас ад 11 да 6 станоўчых адказаў, вам неабходна яшчэ раз усё прыкінуць, перш чым брацца за справу.**

**Калі вы адказалі "Так" усяго 5 або меншую колькасць разоў – вы не падрыхтаваны да прадпрымальніцтва і вам неабходна добра задумацца, перш чым заняцца ініцыятыўнай эканомікай.**

## ПАДРУЧНІК ДЛЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

На мінулым тыдні ў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь адбылося падпісанне дамовы аб выданні для вайскоўцаў вучэбнага дапаможніка па гуманітарнай падрыхтоўцы. Сумеснае выданне будзе называцца "Гісторыя Беларусі (кароткі нарыс)".

Можа атрымацца так, што Узброеныя Сілы, якія лічацца адной з самых кансерватыўных арганізацый, пяройдуць на беларускую мову хутчэй, чым некаторыя цывільныя ўстановы. Ва ўсялякім выпадку, узровень падручніка, прызначанага для генералаў, афіцэраў, прапаршчыкаў і салдат тэрміновай службы, сведчыць: і ў Міністэрстве абароны, і ў навуковым асяроддзі разумеюць не толькі складанасць задачы пераходу Узброеных Сіл на беларускую мову, але і неабходнасць гэтага.

Падручнік разлічаны на два гады заняткаў. Ён уключае ў сябе 5 асобных частак, падзеленых на 30 тэм, у якіх распавядаецца аб гісторыі нашай Беларусі ад старажытнасці да цяперашняга часу. Акрамя вывучэння гісторыі, падручнік адначасова з'яўляецца добрай падмогай для вывучэння беларускай мовы. Для тых жа, хто пакуль з цяжкасцю карыстаецца ёю, газета "Во славу Родины" будзе перыядычна друкаваць метадычныя рэкамендацыі на рускай мове.

Агульную рэдакцыю вучэбнага дапаможніка ажыццяўляюць член-карэспандэнт АН РБ Міхаіл Паўлавіч Касцюк і доктар гістарычных навук Міхаіл Восіпавіч Біч. Задзейнічаны вельмі моцны састаў аўтараў, сярод якіх акадэмік АН РБ І.М. Ігнаценка, член-карэспандэнт АН РБ І.Я.Марчанка, дактары навук Г.В.Штыхаў, У.А.Палуян, У.І.Навіцкі і Я.С.Палмаў. З боку вайскоўцаў у рабоце над падручнікам прымаюць удзел палкоўнікі Я.Нікулін, М.Скомскі, У.Хамянкоў і У.Шошын. Навучанне асабовага саставу па першай частцы падручніка пачнецца ўжо з новага года, цалкам вучэбны дапаможнік будзе падрыхтаваны да чэрвеня 1993 года.

(НАШ КАР.).

# СОЛА ДЛЯ ЧАМАДАНА З АРКЕСТРАМ,

## або Беларускае войска ў чаканні рэформ

**Многія сцвярджаюць: вышэйшая пасада ва Узброеных Сілах — прапаршчык. Адкінем убок жарты — бо сапраўды, прапаршчыкі з'яўляюцца неад'емнай часткай нашага войска, яны быццам бы стаяць пасярэдзіне паміж афіцэрамі і салдатамі, ведаюць праблемы і тых, і другіх. Сённяшняя наша гутарка з прапаршчыкам беларускіх Узброеных Сіл Львом МАСЛОУСКІМ.**

– Леў, адкажы, калі ласка, як ставяцца афіцэры і прапаршчыкі, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі, да неабходнасці змяніць месца службы?

— Многія з тых, хто не збіраецца працягваць службу ў беларускіх Узброеных Сілах, пакуюць чамаданы. Ва ўсялякім выпадку, многія з расіян, якія раней служылі тут, адназначна збіраюцца пераводзіцца ў Расію. Але ж перашкаджаюць бюракраты — пакуль прыйдзе адказ на рапарт аб пераводзе ды знойдзецца падыходзячае месца... Акрамя таго, трэба ж і свае праблемы вырашаць — з маёмасцю, кватэрай. А то ж бывае — чалавек прадаў усё, што мог, кватэру памяняў... тут прыходзіць папера, маўляў, вы падумайце яшчэ — хочаце пераводзіцца ці не, можа застаняцеся, а калі не атрымаецца, тады пішыце чарговы рапарт... Гэта пасля трох-чатырох месяцаў блукання гэтых папер.

– Але будзем гаварыць не пра тых, хто ад'язджае, а пра тых, хто застаецца...

— У тых, хто застаецца, таксама праблем нямерана. І ўсіх хвалюе адно пытанне: ці будзе паляпшэнне? Нават збоку не складана ўбачыць, якія праблемы стаяць перад беларускімі вайскоўцамі. Гэта, па-першае, жыллёвае пытанне. І тут масла ў агонь падлівае такое меркаванне: маўляў, шмат народу вяртаецца з-за мяжы, ім неабходна прадаставіць жыллё, нейкія квоты, каб самі будаваліся, і ўрэшце людзі, якія служылі тут гадамі, спадзеючыся нешта атрымаць, зноў застаюцца, бы старая ля разбітага карыта. Думкі розныя ў галаву лезуць... Служыў, служыў — і што выслужыў? І нават надзеі ніякай. А тут прыедзе чалавек знекуль — яму хоць штосьці дадуць, а ты як не меў нічога, так і не будзеш мець. Нам нават адназначна сцвярджаюць: з жыллём глуха.

– На Беларусі застаюцца служыць не толькі беларусы. Ці не адчуюць яны ў адносінах да сябе нейкай злосці – маўляў, сваіх няма куды падзець...

— Гэта залежыць толькі ад чалавека. Калі яго ў сваім калектыве паважалі, дык ніхто і не заўважыць, што ён застаўся. Яго лічылі сваім — і будуць лічыць.

– Але калі ён камусьці не падабаецца, на яго ўсё ж могуць паказаць пальцам – ты хахол, вось і едзь у свой Кіеў...

— У нашым палку служаць не толькі беларусы, і ніхто нават у думках іх не папракае. Наадварот, ёсць нашы землякі, аб якіх ніхто б не пашкадаваў, калі б яны куды-небудзь пераваліся. Адным словам, я лічу, што ў вайсковых калектывах нацыянальнае пытанне не адыгрывае вялікай ролі. Давай паглядзім па логіцы — напрыклад, навошта нашаму старшыні роты, малдаваніну па нацыянальнасці, у якога тут і сям'я, і жыллё, і "фазэнда", — адным словам, усё, што патрэбна для нармальнага жыцця, — перабірацца кудысьці, пачынаць усё з нуля? Усе ставяцца да яго нармальна, служба ідзе, дык што яму тут перашкаджае?

– Аднак ці будзе ён прымаць прысягу на вернасць Беларусі?

— Скажу табе шчыра: многія ў войску (пераважна, канешне, не беларусы) не гараць жаданнем прымаць беларускую прысягу. А раптам з'явіцца неабходнасць перавесціся за мяжу ці проста звольніцца?.. Людзі не хочуць, каб надалей гэтая прысяга стала... ну, будзем казаць, нейкім каменем спатыкнення. Таго ж малдаваніна ўзяць — ён і па-руску з акцэнтам гаворыць, і проста не ўяўляе сабе, якім чынам прымаць прысягу па-беларуску. Хаця мы маем вопыт, калі туркмены, таджыкі, якія ў рускай мове не бельмеса не разумелі, прымалі прысягу па-руску. Вядома, беларусы прысягу прымуць. Але зноў жа ўзгадаем таго Жору-малдаваніна: яму некалькі месяцаў да выслугі, і ён са спакойным сумленнем пойдзе на пенсію. Мяркуй сам — навошта яму звальняцца толькі з-за таго, што ён не хоча прымаць прысягу? Яму прыйдзецца гэта зрабіць, толькі каб даслужыць свой тэрмін. Але я не думаю, што ён будзе так ужо гарэць жаданнем гэтую прысягу выконваць... Зноў жа паўтару: калі мы прымалі саюзную прысягу, меўся на ўвазе і беларускі народ таксама.

– А як з беларускай мовай? Супраціўленне ёсць?

— Многія кажуць: беларуская мова, гэта, канешне, добра, але трэба пакінуць дзве мовы. Тут чысцейшы прагматызм — бач, 19 гадоў па-руску каманды падаваў, а цяпер па-беларуску прыйдзецца... З аднаго боку — чаму б і не, але не многія хочуць сябе абцяжарваць. Акрамя таго, для многіх беларуская мова не такая ўжо простая рэч, нават для беларусаў, для тутэйшых.

– А можа, проста не спрабавалі?

— Ведаеш, для многіх нават смешна — як гэта каманды будуць падавацца на беларускай мове? Наш камадзір палка з гэтай нагоды гаварыў: "Можа быць, я таму пераводжуся ў расійскае войска, што не ўяўляю сябе перад усім палком, падаючы каманды па-беларуску". Не так гэта ўсё проста. Народ наш адаптаваны да ўсяго, ён усё прыме, будзе вывучаць мову, пяройдзе на яе і г.д... Але калі б гэта была справа чыста добраахвотная — маўляў, карыстайся той мовай, на якой атрымліваецца гаварыць...

– Дык тады ж усе па-руску і будуць кантактаваць...

— Уся справа ў тым, што народ не хоча прымусовасці.

– Дык хіба расійская мова не насаджалася прымусова?

— Іншы час, тады, можа, сэнс у гэтым быў...

– Як вядома, на тэрміновую службу ў беларускія Узброеныя Сілы прызываюцца цяпер толькі ўраджэнцы Беларусі. Ці паўплывала гэта на ўзаемаадносіны паміж салдатамі, на тую ж самую "дзедаўшчыну"?

— Я б сказаў, што не надта. Па-першае, "дзедаўшчына" як з'ява амаль што знікла. Прызыў, які дэмабілізоўваўся ў 1987—1988 гг., забраў з сабою яе карані. А ўсё тое, што зараз адбываецца, гэта адбітак усяго таго, што адбываецца ўсюды — у школах, вучылішчах... Як моладзь прыгнятала адзін аднаго, так і прыгнятае. Але бессэнсоўных здзекаў, такіх, як былі раней, стала значна менш. Я нават назіраю парадаксальную з'яву — калі раней "дзед" прыгнятаў маладога, цяпер часта адбываецца адваротнае: малады баец, які праслужыў літаральна некалькі дзён, можа "припахивать" нават "дзембеля". Моладзь пачынае перыядычна "шугаць" стараслужачых.

– Нават так? І чым ты гэта тлумачыш?

— Карэннымі зменамі ў кадравым саставе. Напрыклад, у нас большасць "маладых" — мясцовыя. І чаму той хлапец, які раней "шугаў" цэлы раён, не можа дыктаваць сваю волю іншым? Хіба ён не здольны перадаць сваім хлопцам, каб яны таго "дзеда" злавілі, калі ён ідзе ў звальненне?

– А што афіцэры і прапаршчыкі? Так бы мовіць, "забілі цвік" на службу?

— Ну, не тое што канчаткова, але... Многа народу збіраецца звальняцца... Вось у нас амаль адзіны, хто не падыходзіць да катэгорыі "забіўшых цвік", — гэта ротны. Сапраўды, яму трэба расці, рухацца па службе, і ў гэтым ён павінен спадзявацца на тых, кім кіруе. Скажу шчыра калі я што і раблю — у сэнсе больш, чым трэба непасрэдна для службы — толькі для таго, каб ён не заставаўся крайнім. Чалавечыя адносіны! Наогул беларускае войска зараз трымаецца толькі на тэтых чалавечых адносінах. Можа, дзесьці інакш, але я мяркую па свайму калектыву і думаю, што так усюды...

Гутарку вёў
Алесь ПАЛЫНСКІ.



# СЦЯГ — БРЫГАДЗЕ

Працягваецца працэс скарачэння і рэфармавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Днямі ў Слоніме адбылося ўручэнне Баявога сцяга наваствoранай 11-й Асобнай Гвардзейскай механізаванай брыгадзе. Сцяг уручаў намеснік міністра абароны РБ генерал-палкоўнік П.Чавус. Згодна з традыцыяй Праваслаўнай царквы, сцяг асвяціў рэктар Мінскай Духоўнай семінарыі ігумен Нікан.

Брыгада ўзнікла не на пустым месцы, яе асновай паслужыла 11-я Гвардзейская ордэна Чырвонага сцяга і Суворава II ступені Прыкарпацка-Берлінская танкавая дывізія. Ва Узброеных Сілах нашай рэспублікі гэта ўжо другое такое фарміраванне. Створаная на Гарадзеншчыне падобная брыгада паказала сябе з лепшага боку. Відавочна, што мабільныя, узброеныя сучаснай тэхнікай драбнейшыя, чым у былой Савецкай Арміі, вайсковыя злучэнні – будучыня беларускага войска.

Брыгадзе, як кажуць яе афіцэры, шанцуе: ужо вырашана большасць побытавых і матэрыяльных пытанняў. Напрыклад, для сем'яў афіцэраў (а большасць з іх выведзена з Германіі) турэцкай фірмай "ЭНКА" пабудаваны катэджы, быў праведзены і капітальны рамонт казармаў. Цяпер пачынаецца камплектаванне брыгады ваеннаслужачымі тэрміновай службы.

В. АКУЛІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: 1. Баявы сцяг 11-й Асобнай Гвардзейскай механізаванай брыгады. 2. Намеснік міністра абароны РБ генерал-палкоўнік П.Чавус гутарыць з ігуменам Ніканам.

ФОТА АЎТАРА.



# ЗВАНОК НА ЎРОК

*Потым ужо*
*з гадамі,*
*з мудрай далечы*
*людзі не раз*
*прыгадвалі гэтыя дні,*
*гэтае лета.*
*Тады ж нікому*
*асабліва не думалася,*
*што дням гэтым*
*суджана запомніцца,*
*надоўга асесці*
*ў людской памяці.*
*Усё пакуль было*
*агорнута*
*невядомасцю:*
*запомніліся гэтыя*
*дні не так па сабе,*
*як тымі восенню*
*і зімой,*
*што ішлі за імі...*
*...Няхутка*
*набліжаліся*
*бліскавіцы, паволі*
*раслі, мацнелі грамы,*
*а ўсё ж*
*падступаліся,*
*гразіліся.*
*Вось ужо сталі*
*заходзіць збоку,*
*як бы акружаць.*
*Вецер таксама нібы*
*цешыўся людскім*
*неспакоем — то*
*ўціхаў на хвіліну,*
*то налятаў*
*з новым шалам,*
*біў вільгаццю і*
*холадам.*

*Іван МЕЛЕЖ.*

## ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ

(Гл. "Людзі на балоце", "ЧЗ" 9.09—15.09.1991 г.)

Дваццаць восьмага кастрычніка меў адбыцца Канец Свету. Калі верыць прадказальнікам. А чаму ж ім не верыць? Хіба не іхняму брату Настрадамусу пашэнціла ў свой час прадказаць канчыну нашае айчыннае камуністычнае імперыі пасля цяжкай ды працяглай хваробы, на семдзесят чацвёртым годзе жыцця? Няма сумневу, скангчэнне свету — рэч сур'ёзная, і аднесціся да яго трэба, казаў той Ленін, як да мастацтва. Памятаеце ж, "прамаруджванне з паўстаннем смерці падобнае" (Поўны збор твораў. Том "ікс", стар."ігрэк").

А літаральна праз некалькі дзён пачалася забастоўка настаўнікаў, што зноў жа пацвярджала правільнасць прадказання астролагаў. Згадзіцеся, калі ўжо настаўнікі, самая агаломшаная, заезджаная і бяспраўная катэгорыя насельніцтва, адважылася на ТАКОЕ — канец свету. Ці ж не яны, настаўнікі, заўсёды адкладвалі рашучыя дзеянні да Другога Прышэсця Хрыста?

У Чашніках гаварылі пра забастоўку шмат, але ўсё неяк няўпэўнена, напаўголасу, ці то і самі не ўпэўнены былі, ці то чагосьці баяліся, чакалі. Хоць і накіравалі ў Мінск калектыўны ліст, і нават, нехта казаў, зачытвалі яго па радыё, хоць і набліжалася няўмольна субота, тая субота, калі прыйдуць яны на працу, але не пойдуць на ўрокі (і што рабіць будуць?), але ўсё роўна не верылі. Да таго ж, чакалі каманды зверху. Прывыклі яны чакаць каманды. Прывыклі за доўгія і плённыя гады выхавання ўсебакова і гарманічна развітой асобы, калі камандзірам над настаўнікам мог стаць кожны: ці то "свой" дырэктар, завуч, ці то заезджы "дарадца" з райана, з газеты, з міністэрства. Здаралася, камандзірам у настаўніка станавіўся калгасны аграном альбо брыгадзір, які не супроць быў праверыць, колькі вёдзер бульбы "прыпісаў" небарака дзецям, калі працавалі ў полі. Дзіва, што з гадамі ў настаўніка выпрацаваўся стойкі імунітэт супроць кожнага "гастралёра", які імкнецца пераступіць парог яго нарэшце-такі суверэннае школьнае дзяржавы. Дзіва, што нават зараз, перажыўшы гэтулькі рэформ і начытаўшыся ў сваёй прафесійнай газеце шэрагу Канцэпцый, нават зараз, даросшы да забастовак, настаўнік па-ранейшаму лічыць за лепшае "варыцца ў сваім саку".

Мае знаёмыя беларусісты сёння таксама падаліся а ці стомленымі, а ці занятымі нейкім трывожным, зусім не ўласцівым ім чаканнем. Нават здзівілі. Успамінаю, як год назад, акурат пасля путчу, з ахвотаю дзяліліся яны і вялікімі крыўдамі, і маленькімі радасцямі: гарталі з імі "дарэвалюцыйную" (яшчэ дзевяностага года) праграмку па літаратуры, а яна ўвачавідкі рассыпалася — выпадалі асобныя творы і нават цэлыя раздзелы, у нас на вачах рабілася тады гісторыя, адбывалася вялікая, бадай, рэвалюцыйная ломка стэрэатыпаў. Мо і занадта наламалі тады стэрэатыпаў, бо, кажуць, цяпер зноў вяртаюцца звыклыя творы, а разам з імі прыходзіць "цэ-у," як іх трэба разумець. Новым прачытаннем называецца. Праграмка засталася ранейшай, а настаўнікаў не пазнаю.

Прызнацца, я і сам стаміўся. Найперш стаміўся бачыць, як дэкляраваная, выпушчаная пагуляць на волю з высокіх дзяржаўных заканадаўчых трыбун беларусізацыя, яшчэ не дасягнуўшы правінцыі, сустракае глухое, маўклівае, цярплівае пакуль і таму нябачнае простым вокам, але зацятае ўнутранае непрыняцце з боку чыноўнікаў розных расфарбовак, адміністратараў, з боку звычайнага абывацеля, які займае падчас не такія ўжо бяскрыўдныя пасады і лічыцца інтэлігенцыяй. Стаміўся ўсведамляць, што кволыя атожылкі Адраджэння — назавём так пачатковыя беларускамоўныя класы, што паадчыняліся, бадай, ва ўсіх школах — проста не выжывуць у асяроддзі суцэльнага манкуртства.

Чашнікі — не выключэнне.

Тут, адразу за аўтастанцыяй, пачынаецца шырокае бруднае рэчышча, прама на асфальце, якое тутэйшыя далікатна называюць калюжынай. Дажджліваю слотнаю восенню калюжына разбухае, засціць дарогу машынам, дабіраецца да рэдакцыі раённай газеты, так што будынак становіцца падобным да Ноевага каўчэга. Тады калегі, напалоханыя камунальнікамі і астролагамі, выходзяць на камуністычны суботнік па барацьбе з грознаю стыхіяй з мэтай не дапусціць сусветнага патопу. Дапытлівыя журналісты правялі службовае расследаванне, у выніку чаго выказваюць версію, нібыта ў каналізацыйны сцёк кінуўся ў спячку калючы вожык і цяпер абодва, як вожык, так і сцёк, загадалі доўга жыць.

Тут, адразу за аўтастанцыяй, пачынаецца шырокая нацыянальная абыякавасць, якую тутэйшыя далікатна называюць настальгіяй па часінах застою. Пад час няпэўнага і зменлівага палітычнага міжсезоння абыякавасць разбухае, засціць дарогу тым нешматлікім энтузіястам, якія яшчэ руплцца на ніве Адраджэння, нягледзячы ні на што, рукамі голымі спрабуюць нешта змяніць. У гэты час школа застаецца адзіным Ноевым каўчэгам, дзе ўдумлівыя настаўнікі, шукаючы прычыну, чаму забівае вадасцёкі духоўнасці, чаму грамадскія фільтры-адстойнікі не спраўляюцца адфільтроўваць высокую маральнасць ад звычайнага мяшчанскага бруду, знаходзяць калюча-просты адказ: нашы людзі не адчуваюць унутранай патрэбнасці да самавыражэння. А для беларуса гэта ёсць мова, ёсць усведамленне нацыянальнае годнасці, нарэшце, калі хочаце, пэўны ўзровень культуры.

"Каждой твари — по паре". А каўчэг адзін...

## ЗАМІЖ ПАСЛЯСЛОЎЯ
### Хроніка скангчэння свету

Вовачка:

— Ура! Канікулы! У Мар'і Іванаўны заўтра забастоўка.

Тата:

— Якая яшчэ забастоўка?!

— Ну, гэта калі з урокаў "сачкуюць" настаўнікі!

(Мужчынская размова).

* * *

"Я, Мар'я Іванаўна, у суботу прапусціла ўрокі ў сувязі з тым, што сядзела... без штаноў".

(Тлумачальная дырэктару школы).

* * *

24 кастрычніка ў Маскве ўрачыста прыступіў да работы кангрэс Фронту нацыянальнага выратавання...

Завяршылася стварэнне Фронту харавым выкананнем песні "Священная война"...

У прынятым маніфесце Фронт нацыянальнага выратавання адказаў на шэраг пытанняў, ім жа самім пастаўленых.

ШТО РАБІЦЬ: "Мы знойдзем сілы і сродкі, каб прымусіць нацыяналістычных лідэраў "суверэнных" дзяржаў паважаць нашых...", "праводзіць мітынгі, маніфестацыі, пікеты...".

(З газет).

* * *

— Чуў, кагадзе ў Чашніках камуністы мітынгавалі.

— Канец свету! Дзе?

— Ды ў клубе.

— Хіба ў клубе мітынгуюць? Там жа спектаклі...

— А ў іх не спектакль хіба?

(З размовы).

— Не бойся... Ето Ілля катаецца... Ілля-прарок... — туліла малую, ласкава і трывожна шаптала ёй Ганна. — Ён добры... Ён малых не чапае... Ён толькі здаецца такі — страшны. А напраўду ён — добры... Добры...

І ў громе чула, як цяжка, часта дыхае Верачка...

(Іван Мележ "Подых навальніцы").

Цьфу-цьфу-цьфу! Пранесла...

Уладзімір МІХНО.

Фота В. ПАЛУБІНСКАГА.



Жаніцца, напэўна, у шаснаццаць год яшчэ ніхто не збіраецца, але вучыцца жадаюць далёка не ўсе. Хаця многім падабаюцца заняткі ў школе, і ў гэтым, відаць, заслуга настаўнікаў. А калі ў школе сумна? Хто вінаваты? Таксама выкладчыкі? І наогул, ці можа школьнае жыццё быць шэрым? Сёння мы друкуем вашы лісты, у якіх вы спрабуеце высветліць гэтыя пытанні.

## ШТО ГАРЧЭЙ ЗА РЫБІН ТЛУШЧ?

Пасярод вуліцы стаіць маленькі хлопчык у школьных штанах і адчайна плача. Па пульхных шчоках цякуць буйныя, празрыстыя горкія слёзы.

– Што здарылася?– нахіляюся да яго. – Цябе хтосьці пакрыўдзіў?

– Я...я... я не хачу ісці ў школу.

Дарослыя! Вас кармілі рыбіным тлушчам?

Замест таго, каб губляць раніцой туфлі ад вечнай спешкі, спыніцеся на хвіліначку і паглядзіце на вашых нашчадкаў, якія збіраюцца ў школу. Вы зразумееце, якім павінен быць твар у тых, хто п'е гэтыя славутыя лекі.

На лаўцы, лузгаючы семкі, дзве юныя дзевы аб нечым захоплена гутараць.

– Дзяўчынкі,– падыходжу я да іх,– вам цікава ў школе?

У адной з іх сумка выпала з рук і пляснулася на зямлю, а ў другой семкі заселі ў горле.

Яны абедзве гучна засмяяліся.

– Не,– выціраючы слёзы ад рогату, адказвае адна,– у школе мне сумна.

– Чаму?

– Выкладаюць дрэнна,– гаворыць яе менш смяшлівая сяброўка,– настаўнікам усё роўна цікава табе ці не, абы належныя гадзіны адпрацаваць. Прыйдуць, раскладуць свае сшыткі, адчытаюць урок, паставяць пару адзнак і ўсё.

– А вы чаго хочаце?

– Каб на ўроках цікава было, каб у школу хадзілі з задавальненнем.

Дзяўчаты падняліся і з гордым выглядам пайшлі прэч.

– Ты чаго тут сядзіш?– чую раптам.

Аглядаюся. Мой былы аднакласнік.

– Слухай,– звяртаюся да яго,– табе было цікава ў школе?

– Не. Я школу заўсёды цярпець не мог.

– Але ты ж хадзіў туды...

– Толькі дзеля майго класа.

– А хто, па-твойму, вінаваты ў тым, што ў школу ходзяць, як на катаргу? Настаўнікі, вучні, праграма?

– Думаю, што настаўнікі. Ну ўяві: сапраўдны выкладчык можа дзесь у праграме капнуць глыбей, дзесьці менш, а наогул выкладаць матэрыял так, каб клас слухаў, адкрыўшы рот.

– Прабачце,– умяшалася настаўніца, якая ішла міма. – Прабачце, але вы падумайце самі: настаўнікі павінны вучыць дзяцей з адной прафесійнай этыкі. А вы паспрабуйце правесці 6–7 урокаў у класе, дзе кожны крычыць нешта сам сабе, ніхто нікога не слухае, і тым больш усім глыбока абыякава, што ўяўляе сабой формула вады і ў якім годзе памёр Лермантаў... А зарплата?!

– Ну, не скажыце, – заспрачаўся мой аднакласнік. – У нас быў настаўнік, дык ён увесь клас прымусіў палюбіць свой прадмет. Тут проста талент патрэбны. Калі ў чалавека няма здольнасцей да педагогікі, яго ніякі інстытут, ніякая зарплата не выратуюць.

Яны захоплена працягвалі спрачацца, а я задумалася.

Быццам і вучань мае рацыю, і настаўнік не вінаваты, але ў школу дзеці не ідуць як на свята і рады любой прычыне, каб збегчы з урокаў. Штосьці дарослыя дзядзькі і цёткі недадумалі...

Алена КАГАЛОЎСКАЯ,
вучаніца 11 класа
СШ № 104 г.Мінска.

## ДЗЕ ВУЧЫЦЦА ДОБРА, ДЗЕ ВУЧЫЦЦА ДРЭННА

У вас сёння добры настрой? Не засмучайцеся, ёсць цудоўны сродак пазбавіцца ад яго. Трэба толькі павучыцца ў школе – і ўсё як рукой зніме.

Раніцай мы, разлічыўшы сілу цяжкасці, сілу трэння, адрываем сваё мікраскапічнае цела па другому закону Н'ютана і вылічваем, з якой хуткасцю і паскарэннем нам трэба рухацца, каб не спазніцца ў школу. Мы ніколі не солім суп, загадзя не напісаўшы хімічнай формулы. А на дні нараджэння дорым кветкі з сямейства складанакветных.

Настаўнікі нашы бураціністыя, няўжо вы думаеце, што мы будзем так жыць?

Мы не можам адрозніць нахабнасць ад раскаванасці, затое ведаем, як размнажаюцца дажджавыя чарвякі. Мы не маем уяўлення аб культуры свайго народа, затое добра засвоілі даты франка-прускай вайны.

Можа, наша галава і безразмерная панчоха, але з вушэй ужо лезуць формулы і даты. А вы ўсё пхаеце, пхаеце...

Здаецца, так проста аддзяліць хімікаў ад літаратараў, матэматыкаў ад біёлагаў (можа, геніяў стала б больш). І машыніст "за", і пасажыры –"не супраць", а цягнік усё ніяк не выйдзе з тупіка.

Ёсць, праўда, некалькі гімназій, дзе ўсё рухаецца супраць устаноўленага цячэння.

Бачылі б вы расклад васьмікласнікаў, якія стаяць на шляху выпрабаванняў і памылак: увядзенне ў эканоміку, увядзенне ў журналістыку, увядзенне ў юрыспрудэнцыю. Старэйшыя ўжо бачаць не туманна-размазаную пляму, а дакладную мэту, да якой яны хутка карабкаюцца ўгару. Вышэйшую матэматыку праходзяць. Мы б ад такіх нагрузак "задыміліся", а іхнія механізмы бойка цікаюць.

Чаму ў іх не санліва-спісваючыя адносіны да вучобы? Яны зразумелі – сёння я пасплю на ўроку, вечарам – не вывучу дамашняе заданне, а праз месяц пра мяне ніхто ўжо не ўспомніць. І буду я з жалем раздумваць аб кар'еры маладога прадпрымальніка...

Не кажу ўжо пра настаўніка. Школьныя настаўнікі і выкладчыкі гімназіі адрозніваюцца паміж сабой як сонца і месяц.

Так што пакуль мы стаім у тупіку, гімназісцкі новенькі цягнік хутка імчыцца да вяршыні.

Таццяна КАВАЛЁВА,
вучаніца 10 класа, г.Мінск.

# СНЕЖАНЬ

Амаль увесь снежань — Піліпаўскі пост, які супадае з Язычніцкім шанаваннем бога зла — Чарнабога.

1/18 — Адвент, перадкалядны пост.

2/19 — У гэты дзень варажылі на надвор'е. Калі свеціць сонца — будзе добрая вясна і лета. Калі завіруха альбо дождж — вясна і лета будуць няўдалымі.

4/21 — Хрысціянскі прысвятак — Увядзенне. Супадае з каталіцкім святам у гонар святой Барбары — адной з самых шануемых у гэтым асяроддзі святой.

5/22 — Дзень свята Савы і святога Пракопа. У некаторых рэгіёнах Беларусі сяляне расстаўлялі вешкі ўздоўж дарог, каб не збіліся са шляху падарожнікі.

6/23 — Дзень святога Міколы ў каталікаў. У яго дзяўчаты не збіраліся прасці на вячоркі. Але разам варажылі пра жаніха.

7/24 — Дзень святой Кацярыны. У гэты дзень жанчыны адзначалі свята свечкі. Дзяўчаты варажылі на будучае.

9/26 — Юр'еў дзень. Разгар Піліпаўкі, па язычніцкіх уяўленнях — разгул зла. Ваўкі пачынаюць нападаць на свойскую жывёлу. Культ Чарнабога перайшоў да святога Юрыя (Георгія), якога хрысціяне пачалі лічыць апекуном ваўкоў і іншай лясной жывёлы. У Юр'еў дзень "Юрый дае ваўкам свабоду".

13/30 — Дзень святога Андрэя — дзявочае свята, звязанае зноў жа такі з варажбой.

14/1 — Дзень святога Навума. Раней менавіта ў гэты дзень, вызваліўшыся ад работы па гаспадарцы, сяляне пачыналі вучыць сваіх дзяцей грамаце. "Навум розуму вучыць".

17/4 — Дзень святой Варвары. У дзень гэты жанчыны не пралі, бо Варвара, паводле падання, верацёнамі закатавана.

18/5 — Дзень святога Савы. Зноў забаранялася прасці і круціць, каб добра было скаціне.

19/6 — Дзень святога Міколы ў праваслаўных.

21-22 — Дзень астранамічнага зімовага сонцастаяння.

22/9 — Дзень святой Ганны. Каталіся на санках.

24/11 — Посная куцця.

25/12 — Каляды каталіцкія.

31/18 — Багатая (шчодрая) куцця ў каталікаў.

БЕЛАРУСК

Багі падземнага царства

*З глыбінь архіваў*

## Г.Р.ДЗЯРЖАВІН СЯРОД СЯЛЯН БЕЛАРУСКАЙ ГУБЕРНІ

Ніводзін даследчык і краязнаўца айчыннай гісторыі рубяжа XVIII-XIX ст. не абыдзецца без вядомых мемуарных запісак славутага рускага паэта. Аблашчаны Паўлам I за сваю адкрытую непрыхільнасць царадворскім інтрыганам Г.Дзяржавін летам 1800 г. быў накіраваны ў якасці сенатара рэвізаваць стан арэндных маёнткаў Беларускай губерні і адначасова высветліць прычыны масавага голаду сялянства. Сваё даручэнне сенатар збіраўся выканаць без асаблівай агалоскі. Па-першае, высокі пасланец меў паўнамоцтвы неадкладна арыштоўваць маёнткі тых дваран, якія не дбалі аб пракармленні сялян. А сярод такіх меліся і ўладанні саноўных асоб. Па-другое, секвестр па аднаму распараджэнню царскай асобы мог узрушыць сялян да надзеі, што цар вырашыў адабраць іх з-пад прыгоннай залежнасці пад дзяржаву. А гэта магло спраўакаваць да сапраўды масавага непаслушэнства панам. Свае чыненні на Беларусі паэт-сенатар таму не мог адлюстраваць цалкам ва ўспамінах. У гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся некаторыя справы, якія дазваляюць удакладніць абставіны сакрэтнай дзяржавінскай рэвізіі. Звесткі тычацца сустрэч паэта з мясцовымі сялянамі. Прывядзём архіўныя даведкі як мага шырэй і паўней.

26 ліпеня 1800 г. Г.Дзяржавін нечакана адхіліўся ад вызначанага маршруту і прыбыў у Задняпроўскую слабаду фальварка Тэолін, якая належала князю Станіславу Любамірскаму. Дзякуючы занепакоенасці апошняга мы зараз і маем згаданыя ніжэй сведчанні сялян.

Г.Дзяржавін адразу сустрэў натоўп вяскоўцаў, відаць, неікім чынам зведаўшых аб знаходжанні пецярбургскага госця ў губерні. Адразу ад карэты ён звярнуўся да сялянскага натоўпу (як сведчылі потым самі сяляне) з запытаннем: "Есть ли у вас хлеб?". Яму адказалі, што хто не мае, той бярэ ў доўг у князя. А затым спытаў сенатар: "Нет ли каких вам тяжестей или крийд нашего князя?". На што селянін Іван Дзянісаў адказаў, што ніякіх крыўд няма, апроч возкі дроў, пяску і цэглы. Дзяржавін, відаць, не задаволіўся і звярнуўся да Сяргея Самусёва і іншых з удакладненнем: "Что едите?". А стаяўшы тут жыхар гэтай жа слабады Іван Данілін адазваўся, што травой ды кулешам. З тым жа запытаннем сенатар звярнуўся да ўдавы Наталлі Карабіхі. Можа яна вылучалася гаротным выглядам, а можа яе проста рэкамендавалі. Жанчына адказала, што мае крыху купленага, зарабіўшы купляй. Тады ён спытаў: "Где твой дом, идем, покажи мне свой дом".

Наступныя падзеі сялянскія сведкі пераказваюць па-рознаму і таму ёсць тлумачэнне. Паводле сказу селяніна Н.Караля, сенатар "адкрыўшы на стале абрус, убачыў хлеб і спытаў: "Можно ли его есть?". На што Карабіха адказала, што можна. С.Васілоў жа казаў: "Як убачыў сенатар у ўдавы Наталлі ў хаце на стале хлеб добры, чысты — пахваліў, на што яна сказала, што хвала богу, з тым хлебам пражыць можна". Аднак Дзяржавін усё ж такі не паспытаў хлеба, а па расказу самой Карабіхі, спытаў у яе: дзе яна бярэ грошы на хлеб? Тая адказала: "Сын на чаўне зарабляе летам, а зямлі маем чвэрць валокі (каля 5 дзес. — Я.А.). Але яшчэ нядаўна гэту зямлю сабе выстараліся, толькі ўпершыню засеяла, таму яшчэ і не мелі з зямлі прыбытку". Сціплы дыялог у гэтым месцы дазваляе сцвярджаць, што Дзяржавін убачыў такі каравай, што вымушаны быў спытаць у жанчыны — як жа ты ясі такое? Верагоднасць менавіта такой версіі нагадвае далейшая размова.

Калі сенатар выйшаў з хаты, то селянін Восіп Філіпаў "стаў перад сенатарам і дабавіў, што каторыя гультаі не хочуць працаваць, то ніколі хлеба мець не могуць, хоць пан і дае ім з вясны, а потым зноў патрабуе". Селянін С.Самусеў удакладніў, што пан на харчаванне "некаторым дае, а некаторым не дае". І.Данкоў гаварыў, што хлеб "хто зарабляе і купляе, а іншыя з сваёй пахаты маюць, а каторы не мае —той у сваііго пана бярэ". Тут вельмі выразна праступае маёмасная няроўнасць сярод сялянства, пагарда заможных мужыкоў да грамадскіх утрымальнікаў і простая боязь беднаты страціць панскую ласку за скаргі.

Пасля гэтага Г.Дзяржавін аддаў удаве "паклон" (!) і накіраваўся ў мястэчка Дуброўна. Вельмі паказальная тая сцэна. Вясковы люд бачыў у сенатары свайго абаронцу, каторы паклонам выказаў сваё спачуванне беларускай галечы.

**Яўген АНІШЧАНКА.**



*Гісторыя кожнага народа пачынаецца з легенды, якія з'яўляецца водгаласам сапраўдных гістарычных падзей. Галоўны герой такіх легендаў (бог, герой альбо правадыр) часцей за ўсё прыводзіць сваіх людзей на новыя мясціны, дзе яны селяцца, каб даць пачатак новаму народу, альбо ўліць сваю свежую кроў у жылы таго, які насяляў гэтыя мясціны раней.*

*Такая легенда пра героя Трої Энея, які прывёў сваіх воінаў на Апенінскі паўвостраў. Нашчадкі траянцаў, перамяшаўшыся з мясцовым насельніцтвам, стварылі народ, які пазней стаў называцца — рымлянамі. Скандынаваў прывёў на халодныя прасторы з далёкага Паўночнага Прычарнамор'я правадыр Одзін. Пасля яго абагатварылі іх нашчадкі. Нашы паўночныя суседзі, літоўцы, у якасці аднаго са сваіх пращчураў прыгадваюць нейкага замежнага воіна Нямона. Яны сцвярджаюць, што гэта быў ці то вараг, ці то рымлянін (па розных версіях). Ён хадзіў са сваімі воямі па рацэ, якая пасля атрымала яго імя — Нямунас (Нёман), і будаваў на сваім шляху крэпасці.*

*Гісторыя ўсходніх славян пачынаецца з прыгожага падання пра Кія, якое, дарэчы, шмат у чым падмацоўваецца гістарычнымі фактамі. Ён гэтаксама прывёў свой народ на землі, якія сталі потым іх новай радзімай.*

*Змешчаная ў "Аповесці мінулых гадоў", гэтая легенда прыгадвае таксама імёны братоў і сястры Кія, якія былі бліжэйшымі паплечнікамі гэтага правадыра, — Шчэка, Харыва і Лыбедзі.*

*Нестар-летапісец лічыў, што менавіта з іх прыходу і пачалася, "пайшла зямля Руская..." Пад словамі "зямля Руская" ён меў на ўвазе тэрыторыі, на якіх жылі ў яго час усходнія славяне. Але пазней шмат хто пачаў выкарыстоўваць гэтыя словы ў сваіх вузкакарысліўных мэтах. Расійскія гісторыкі апошніх стагоддзяў сцвярджалі і сцвярджаюць, што Кій — роданачальнік рускага народа. Сучасныя ўкраінскія даследчыкі "б'юць сябе кулакамі ў грудзі", даказваючы, што ён быў украінцам. Але ці так гэта?*

ЯНЫ ПРЫ

## 1 снежня — Сусветны дзень барацьбы са СНІД

**Сексу ў нас, як кажуць, няма. А СНІД ёсць. І ёсць канкрэтныя людзі, жыць якім засталося лічаныя гады, месяцы, дні... Ім не пазайздросціш, таму што жыццё іх праходзіць**

# У ЧАКАННІ СМЕРЦІ.

**Як ставіцца да такіх людзей, да іх праблем? Не толькі медыцынскім работнікам, але ўсім нам? На гэтыя пытанні адказвае ўрач-эпідэміёлаг Беларускага рэспубліканскага цэнтра па прафілактыцы СНІДу Наталля ФІРСАВА.**

**– Наталля Пятроўна! А з чаго, уласна кажучы, усё пачынаецца? Як адбываецца "выяўленне" ВІЧ-інфіцыраваных?**

— Вельмі проста. Чалавек ідзе ў паліклініку здаваць аналіз крыві на СНІД. І першапачатковыя даследаванні даюць "станоўчую" рэакцыю. Дарэчы, гэта яшчэ нічога не азначае. Вышэйназваная рэакцыя можа быць выклікана якімі-небудзь часовымі спецыфічнымі працэсамі ў арганізме — напрыклад, цяжарнасцю, рэспіраторнай інфекцыяй, перанесеным стрэсам... У гэтым выпадку неабходна правесці паўторнае даследаванне крыві, але ўжо ў нас у цэнтры. Дапусцім, самае горшае пацвердзілася. Цяпер трэба паведаміць пра вынік інфіцыраванаму. Напэўна, гэта самы непрыемны і цяжкі момант у нашай працы — сказаць чалавеку, што ён асуджаны.

**– Вы робіце гэта адразу?**

— Не-не. Наадварот. Спачатку паступова рыхтуем яго. Прапануем легчы на тыдзень да нас у стацыянар, абследавацца, пачакаць канчатковага дыягназу... Ведаеце, яны не вераць. Нават калі ўсё да канца зразумела і ўжо не падлягае сумненню. Не вераць, што могуць памерці. Бо праяўленне сімптомаў яшчэ не пачалося. Кожны спадзяецца на цуда — а раптам са мной нічога страшнага не здарыцца?.. Бываюць, безумоўна, і адмаўленні ад шпіталізацыі, асабліва сярод наркаманаў. (Некаторым з іх абсалютна ўсё роўна, ад чаго і калі паміраць.) Мы не маем права забіраць іх і лячыць прымусова. Чалавек вольны сам вырашаць свой лёс. Але з гэтага моманту ён ужо папярэджаны аб крымінальнай адказнасці за злаўмыснае распаўсюджанне віруса, і ў нас захоўваецца яго распіска.

**– Але рана ці позна сімптомы даюць аб сабе знаць?**

— Безумоўна. На дадзены момант з 87 вірусаносьбітаў у стадыі клінічных праяўленняў знаходзіцца 13 чалавек. Яшчэ трое, як вы, напэўна, ведаеце, памерла. Але самы першы, выяўлены ў 1987 годзе у Беларусі, яшчэ жыве.

У арганізме, пашкоджаным вірусам, рана ці позна адбываецца "імунны збой". Да чалавека пачынае "чапляцца" літаральна ўсё. Асабліва небяспечныя лёгкія. Адсюль — ВРЗ, пнеўманія, агульнае недамаганне, і ў выніку — маруднае згасанне.

Але нават у такім стане людзі з усіх сіл чапляюцца за жыццё. Вы думаеце, яны прыходзяць да нас толькі з медыцынскімі праблемамі? І з сацыяльнымі, і з бытавымі. І... наогул з незвычайнымі. Нядаўна адна жанчына, заражаная вірусам СНІДу, звярнулася ў цэнтр з просьбай знайсці ёй такога ж палавога партнёра. Нічога дрэннага, вядома, у гэтай просьбе няма, хутчэй наадварот. Чалавек хоча прадаўжаць нармальнае жыццё, не прычыняючы нікому зла. Адна падобная пара ў нас ужо ўступіла ў шлюб. Прасілі за іх, уладжвалі на працу, насуперак дыскрымінацыйным рашэнням дабіліся захавання нармальных жыллёвых умоў. Хваробы сваёй яны, па-мойму, не ўтойваюць, нават карыстаюцца ёю, выбіваючы сабе некаторыя матэрыяльныя выгады.

**– Але, напэўна, далёка не ўсе схільны бравіраваць такім становішчам. Наадварот. У пераважнай большасці грамадства адназначна схільна асуджаць такіх хворых, адносіць іх выключна да групы "павышанай рызыкі" – прастытутак, гомасексуалістаў, наркаманаў...**

— І грамадства, як заўсёды, памыляецца. Быць гуманным, міласэрным зусім няцяжка. Трэба толькі паспрабаваць зразумець, што на месцы гэтага хворага сёння можа апынуцца кожны, нават самы добрапрыстойны сем'янін. І такія выпадкі, дарэчы, ужо ёсць. Давайце глядзець праўдзе ў вочы. Ці збіраюцца маладыя ў наш час жыць усё жыццё з адным палавым партнёрам? Пакажыце мне сям'ю, у якой хоць бы адзін з дваіх ніколі не падумваў пазабавіцца збоку. Гэта рэальнасць, вынікаў якой мы яшчэ не ўсведамляем. Ці можна незамужнюю дзяўчыну, якая мела на працягу года, скажам, трох палавых партнёраў, адносіць да "жанчын лёгкіх паводзін"? З якой нагоды? Гэта — асабістае жыццё, у якім кожны мае права весці сябе так, як лічыць неабходным, шукаць, выбіраць, імкнуцца да ідэалу. "Чаму менавіта я?!" — рытарычнае пытанне хворага СНІДам. Сапраўды, чаму? Адны гадамі і дзесяцігоддзямі здраджваюць сваім жонкам ці мужам з дзесяткамі сяброў або сябровак — і нічога — сыходзіць з рук. Іншыя раз у жыцці не ўтрымаюцца ад спакусы — і падаюць у бездань. Мне вельмі шкада такіх людзей. Якой бы ні была вялікай іх віна перад блізкімі — пакаранне непараўнальна страшнейшае... Пакаранне не толькі смерцю, а яшчэ задоўга да таго — яе чаканнем, пагардай, нянавісцю, адзінотай...

**– Але медыцынская тайна не падлягае агалосцы...**

— Мы робім усё магчымае для гэтага. "Кадзіруем" сваіх пацыентаў. Імя і прозвішча ведае вельмі абмежаваная колькасць супрацоўнікаў. Дыягназ нідзе не фігуруе. Але, папершае, так было не заўсёды. Да таго, як усю каардынацыйную працу па прафілактыцы СНІДу ўзяў на сябе наш цэнтр, яна вялася на розных тэрыторыях рознымі медыцынскімі ўстановамі. "Усплывалі" факты, "засвечваліся" людзі... Пазней, ужо ў 90-м годзе, быў прыняты закон "Аб прафілактыцы захворвання СНІДам", дзе гаварылася пра неабходнасць захоўваць у строгай тайне ўсе звесткі аб правядзенні медыцынскага агляду на заражэнне ВІЧ. Так што лёс хворага ў многім залежыць ад сумленнасці медыцынскага работніка. Калі ж нейкім чынам звесткі ўсё ж прасачыліся — у тым жа Законе запісана: не дапускаюцца звальненні з працы, адмаўленне ў прыёме на працу, прыёме ў лячэбныя і вучэбныя завядзенні, прыёме дзяцей у дзіцячыя дашкольныя ўстановы і г.д.

**– Законы добрыя толькі на паперы...**

— На жаль. У жыцці ўсё больш складана і трагічна. У Беларусь з Расіі пераехала на пастаяннае месца жыхарства сям'я з сямігадовым хлопчыкам, інфіцыраваным ВІЧ. Ён захварэў у выніку пералівання крыві (яшчэ да таго, як яе сталі правяраць). Нейкім чынам пра гэта даведалася ўся вёска. Хлопчыка не прынялі ў дзіцячы сад, затым у школу. Дзякуй настаўніцы, якая прыходзіла да іх дамоў і займалася з малым. Дзеці на вуліцы яго дражняць — вядома, з "лёгкай рукі" сваіх бацькоў. Ён інстынктыўна, па-дзіцячаму цягнецца да іх, але яго пазбягаюць, уцякаюць ад яго, як ад пракажонага. Вось яна, наша рэчаіснасць упярэмешку з жорсткасцю. Хлопчык асуджаны, але за што ён пакутуе ўжо зараз, выслухоўвае здзекі і зняваcу? Чаму людзі такія жорсткія нават у адносінах да дзяцей?

**– А якой павінна быць рэакцыя родных, блізкіх, сяброў на чыё-небудзь шчырае прызнанне?**

— Рэакцыі не павінна быць наогул. Самае страшнае пакаранне чалавек ужо атрымаў — ён жыве ў чаканні смерці. Чаго ж мучыць яго яшчэ больш? Толькі беражлівыя, цярплівыя адносіны здольны прадоўжыць жыццё хворага, пазбавіць яго магчымых думак пра самагубства. Трэба вучыцца быць гуманнымі, нават перадольваючы сябе...

**– Ці дажывём мы да гэтага? Ці дачакаемся? Нешта не верыцца. Старому ў аўтобусе месца не ўступім, а тут – хворага СНІДам шкадаваць...**

— Для ўсяго неабходны час. Бяда ў тым, што асноўная маса людзей у нас лічыць, быццам бы іх гэта не датычыць. Неабходна адладжаная, сістэматычная прафілактычная і прапагандыцкая праца. У ідэале я павінна ўсюды — у метро, у аўтобусе, на вуліцы — натыкацца на плакат, які "крычыць" аб праблемах, звязаных са СНІДам. Але пакуль нашы імкненні да гэтага ідэалу няма каму фінансаваць.

— У такім выпадку, калі не дапаможа родны ўрад, нам, грэшным, застанецца спадзявацца на Бога і спонсараў... Вялікае дзякуй, Наталля Пятроўна, за інтэрв'ю.

Гутарку вяла
Наталля СТРАЛКОВА.
Фота Віктара ДРАЧОВА



* * *

Колькасць хворых на СНІД на пачатак 1992 г. перавысіла 0,5 мільёна чалавек у 169 краінах свету. Мяркуюць, што колькасць заражаных вірусам СНІД складае 10–12 мільёнаў, з іх 3 мільёны жанчын і 1 мільён дзяцей.

На працягу 90-х гадоў заразяцца вірусам СНІД яшчэ ад 10 да 20 мільёнаў дарослых і народзяцца з гэтым вірусам больш як 10 мільёнаў дзяцей. Такім чынам, да 2000 года агульная колькасць заражаных вірусам СНІД з пачатку эпідэміі дасягне 40 мільёнаў чалавек, з іх каля 10 мільёнаў чалавек ужо будуць хварэць СНІДам.

* * *

У Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 87 вірусаносьбітаў СНІДу, з якіх 3-е памерла, 13 чалавек маюць клінічныя праяўленні. 68 працэнтаў усіх ВІЧ-інфіцыраваных пражывае ў г.Мінску. Ёсць вірусаносьбіты і сярод дзяцей – 6 чалавек. Паводле прагнозаў нашых вучоных, колькасць вірусаносьбітаў у Беларусі значна вышэйшая – ад 900 да 1,5 тысячы чалавек.

У гэтым годзе ў Беларусі ўжо вызначана 18 вірусаносьбітаў, у той час, як за ўвесь 1991 год іх было выяўлена толькі 12.

* * *

### СНІД перадаецца:

– пры сексуальных кантактах паміж людзьмі, калі адзін з палавых партнёраў заражаны або ўжо хворы СНІДам;

– пры пераліванні крыві або яе прэпаратаў, перасадцы органаў або тканак, а таксама пры выкарыстанні донарскай спермы, атрыманай ад інфіцыраваных асоб;

– пры магчымасці пападання чужой крыві (або іншай біялагічнай вадкасці чалавека) у парэзы і раны пры татуіроўках, пры розных траўмах, а таксама ў "традыцыйнай медыцыне";

– пры выношванні плода, у час нараджэння дзіцяці або ў перыяд яго кармлення грудзямі інфіцыраванай СНІДам маці;

– магчыма перадача віруса праз нестэрыльныя медыцынскія інструменты, якія парушаюць скурнае покрыва (у тым ліку ў цырульнях, манікюрна-педыкюрных і касметычных кабінетах).

* * *

### СНІД не перадаецца:

Для здаровых людзей у бытавых умовах заражаны вірусам імунадэфіцыту або хворы СНІДам чалавек практычна не з'яўляецца небяспечным. Гэта тлумачыцца шматлікімі прычынамі, галоўная з якіх – малая верагоднасць прамога кантакту здаровага чалавека з выдзяленнямі хворага або носьбіта ў звычайным жыцці.

Вынікам доўгачасовых назіранняў за дзесяткамі тысяч хворых СНІДам вызначана, што вірус не перадаецца пры поціску рук, праз посуд або бытавыя прадметы, сінітарна-тэхнічнае абсталяванне (ванна, унітаз, умывальнік), пасцельную бялізну, манеты ці папяровыя знакі. Выключана таксама верагоднасць заражэння СНІДам праз прадукты харчавання, пітную ваду або паветра. Не зарэгістравана ніводнага выпадку СНІДу, калі заражэнне адбылося б праз цацкі або школьна-пісьмовыя прылады, хаця ў дзяцей бытавыя кантакты аднаго з адным больш частыя і непасрэдныя, чым у дарослых.

Не трэба баяцца перадачы віруса СНІД камарамі і іншымі насякомымі – дакладна даказана, што яны тут ні пры чым.

Так што вывад адназначны: бытавым шляхам, праз паветра, пры наведванні камунальных, культурна-асветніцкіх установ, на транспарце заразіцца вірусам СНІДу нельга.




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№18 (208)




*Спяваем па-беларуску*

## ГІМН

Словы Сяргея ПАНІЗЬНІКА
Музыка Леаніда ШУРМАНА

Мы ўсім людзям сябры,
аднадумцы адвагі:
непадкупная праўда
ў кожным кроку чуваць.
Беларусь! Беларусь!
Слухай голас павагі:
непрыяцеля раць
ты магла супыняць.

Захлыналіся дні
безназоўнага шэсця,
і чужыя кароны
вынішчалі папас...
Беларусь! Беларусь!
Слухай добрыя весці:
наступіў і твой час, —
абнадзеіла нас.

Мы дзяржаўнай хадой
Пад "Пагоняю" крочым.
Колькі моцы вячыстай,
колькі сілы ў крыві...
Беларусь! Беларусь!
Спраўдзі голас прарочы:
зорны след апаві,
несмяротна жыві!



*Зоркі на небасхіле*

# "НОВЫ ПАРАДАК" З МАНЧЭСТЭРА

*"Смерць Іаана Кэрціса — найгоршае, што толькі магло адбыцца з усімі намі. Зараз мы б валодалі мільёнамі, а "Joy Division" падняліся б неверагодна высока."*
*Энтані Уілсан, заснавальнік FACTORY RECORDS.*

Як бы жудасна гэта ні гучала, але нараджэнне групы "New Order" і ейны далейшы поспех апіраюцца на плечы самагубцы. Папярэдняе "New Order" увасабленне – "Joy Division" уяўляла сабой легендарны статус, чый стыль музыкі знаходлівыя крытыкі ахарактарызавалі як "рок без будучыні".

Кіраваў групай і натхняў яе генератар усіх ідэй "Joy Division" Іаан Кэрціс. Вось ягоны вобраз, эмацыянальнасць і ўнутраны боль захапіў душы ўсіх тых, хто здольны быў адчуваць і разумець бурны прастор псіхічнага абсалюту. Непазбежны канец манаполіі суму "Joy Division" быў таксама немінучы, як і смерць Кэрціса. Але каманда ўсё ж паспела выпусціць на фірме грамзапісу "Factory" у Манчэстэры дзве доўгайграючыя пласцінкі "Unknoun Pleasurs" ("Невядомыя ўцехі") і "Closer" ("Бліжэй"). Гэта былі два першыя і апошнія дыскі "Joy Division". Напярэдадні першай паездкі каманды ў Штаты Кэрціс павесіўся. Сярод прычын, якія прымусілі яго зрабіць гэта, часцей за ўсё называюць эпілептычныя прыпадкі, якія не супыняліся (па гэтай прычыне ён ужо двойчы спрабаваў пакончыць з сабою), і шлюб, які не склаўся і ўвесь час прыгнятаў яго. Такі жыццёвы і творчы фінал прынёс Кэрцісу і "Joy Division" зусім іншую славу, на якую ніхто з іх ніколі не разлічваў. Пасля трагедыі, якая здарылася, перад тымі, хто застаўся, паўстала пытанне: пачаць зноў ці скончыць. Яны выбралі першае. Вось так пад трагічнай зоркай нарадзілася адна з найярчэйшых музычных фармацый 80-х гадоў – "New Order" (у перакладзе з англійскай "новы парадак"). Назва групы тут жа выклікала спрэчкі ў журналістаў і крытыкаў, якія ўбачылі ў ёй намёк на фашысцкі падтэкст, але для музыкантаў з "New Order" яна азначала толькі свежы старт. Найбольшым каменем спатыкнення для Пітэра Хука (бас-гітара), Бернарда Самнера/Альбрэхта (гітара) і Стэфана Морыса (ударныя) усё яшчэ заставалася спадчына "Joy Division". Падтрыманыя сваёй студыяй гуказапісу "Factory", яны адразу ўзяліся за працу і ў жніўні 1980 года выпусцілі некалькі дэманстрацыйных запісаў. У канцы года каманда папрасіла сваю былую сяброўку Джыліян Гілберт далучыцца да іх у якасці клавішніцы. Першы сінгл "New Order" "Ceremony / On A Lonely Place" ("Абрад / У адасобленым месцы") быў задуманы яшчэ ў часы "Joy Division", таму доўгі цень Кэрціса прадаўжаў лунаць над калектывам. Відаць, таму першы альбом "New Order" "Movement" ("Рух") быў зроблены па прынцыпе папярэдніх работ. Каманда шмат вандруе і выпускае сінгл "Processsion / Everything's Gone Green" ("Працэсія / Усё расцвітае"), фарбы музыкі ў якім усё яшчэ пераплятаюцца з балючым (хваравітым) культам смерці. З выпускам "Temptation" ("Спакуса") "New Order" паклалі сапраўдны пачатак групы, а ў красавіку 1982 года прарваліся на шырокі рынак, час ад часу аддаючы ва ўладанне танцавальным падмосткам флегматычныя рытмы Хука і Морыса. З рухам наперад музыка групы станавілася ўсё больш даступнай і жыццяздольнай, але не да месца камерцыйнай.

У большасці выпадкаў рэпутацыя "Joy Division" была створана на меркаваннях і прымхах, паколькі група ніякім чынам не кантактавала з прэсай. Хлопцы з "New Order" прадоўжылі джойдывіжэнскія гульні "ў хованкі", але пры гэтым як ні дзіўна, узнік другі культ: поўная цішыня, якая тлумачылася, як разважлівасць, а абсалютная адасобленасць – як таямнічасць. Але сакрэтнасць жыцця групы зусім не стрымлівала музыкантаў, і яны калі-нікалі выраблялі вясёлыя штучкі з неасцярожнымі журналістамі. У сваю чаргу тыя прычапілі на музыкантаў ярлык "хлопцаў з поўначы". Не турбуючыся ні аб чым, каманда зачынілася ў шэрых сценах будынка, які меў назву "Factory Records" і, відаць, засталася знарок блізарукай як да прэсы, так і да паклоннікаў. Такое становішча працягвалася да таго часу, пакуль кампазіцыя "Blue Monday" ("Пахмурны панядзелак") не ўзяла штурмам усе нацыянальныя дыскатэкі, і "New Order" нарэшце выйшлі з халоднага адчужэння. "Пахмурны панядзелак" у сваіх дванаццацідзюймовых міксах-версіях паставіў групу на новую прыступку сталасці. Група з Манчэстэра з гэтай песняй аказалася на дванаццатай пазіцыі ў красавіку 1983 года, а ў верасні, зноў з'явіўшыся там жа і на той час прадаўшы амаль мільён копій па ўсім свеце, трапіла ў "TOP TEN", пацясніўшы ўсіх астатніх. Без усялякага сумнення поспех "Blue Monday" грунтаваўся, з аднаго боку, на ўсё яшчэ старым даверы публікі да "New Order", а з другога – на зацікаўленасці да слухачоў, якая з'явілася ў саміх музыкантаў. Заслужыўшы павагу ў натоўпу элітнага клуба і звычайных поп-фанатаў, група зрабіла вельмі ўдалы ход.

Яшчэ не паспелі абцасы адстукаць "Blue Monday", як выходзіць другі доўгайграючы дыск пад назвай "Power, Corruption And Jies" ("Сіла, карупцыя і хлусня"), які ўзняўся ў нацыянальным гіт-парадзе на чацвёртую прыступку. Гэта праграма ў поўнай меры адлюстравала новы дух, незразумелыя імкненні "New Order". Нягледзячы на тое, што некаторыя кампазіцыі аддалена нагадвалі лірыку Кэрціса, музыка, напоўненая жыццём і святлом, несла ў сабе поўную ўпэўненасць і рашучасць. Выпушчаныя ў 1981 годзе песні "Thieves Like Us" ("Злодзеі як мы") і "Murder" ("Забойства") дапоўнілі нанава знойдзеную славу "New Order". Група і па сённяшні дзень працягвае пісацца на "Factory", але музыканты, мяркуючы па ўсім, адносяць сябе да даволі аўтарытэтных каманд, большасць з якіх выпускае пласцінкі на буйных і грунтоўных студыях гуказапісу.

"New Order" знайшлі сваё асабістае "я" ў музыцы, свабоднае ад абмежаванняў мінулага. Яны змаглі выжыць пасля ўсіх сваіх эксперыментаў. Але самае галоўнае, і ў першую чаргу для іх саміх – яны выстаялі на сваіх уласных нагах, на сваёй уласнай зямлі.

Тады, у далёкім восемдзесят чацвёртым, усё, што адбывалася з "New Order", было толькі пачаткам.



Матэрыял падрыхтавалі сёстры Хмялеўскія, агенцтва "РІД".

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

(Пачатак у № 34-36, 38-47)

Сяржант Друзьдзь вярнуўся дадому толькі ў канцы другой паловы дня. Пануючая ў доме цішыня падказала яму, што нешта не ў парадку. Жонка сядзела на кухні над шклянкай гарбаты, а сын у сваім пакоі і — што рэдка здаралася — не разносілася адтуль ніякае музыкі.

— Вітаю сям'ю. Што так маркотна сядзіце кожны ў сябе? — смачна пацалаваў ён жонку, яшчэ спадзеючыся на спакойны вечар перад тэлевізарам.

— Мацеку загадалі прывесці ў школу кагосьці з бацькоў. Дырэктар хацеў бы пагаварыць пра наша дзіця, — адказала тая, спрабуючы схаваць горыч.

— Што ён там зноў вытварыў?

— Пісаў разам з хлопцамі нейкія газеткі і развешваў іх на калідоры. Сёння іх накрыў сам дырэктар. Мацек нічога не хоча гаварыць, зачыніўся ў сябе і сядзіць бяздумна за сталом.

— Мацек, хадзі да мяне! — рыкнуў Друзьдзь у бок зачыненых дзвярэй.

Мацек з'явіўся ў дзвярах кухні трохі напалоханы, але выразна гатовы да барацьбы, што канчаткова раз'юшыла бацьку.

— Я з-за працы свету не бачу, а ты, гаўнюк, замест таго, каб вучыцца, такія нумары выробляеш? Што табе зноў у галаву ўбілася? Улёткі? Можа яшчэ ў канспірацыю пачнеш гуляцца? Кажы, калі бацька пытае!

— Гэта мая справа, — ашчэрыўся Мацек. — Можаш са мной рабіць што хочаш. Я добра ведаю, што вы з такімі, як я, робіце там, у сваёй камендатуры.

— Ах ты, сабачы сын! — гэта дарэшты разззлавала Друзьдзя.

— Але ж, Пятруню... — залямантавала жонка.

— Не з табой гавару! Ты заўсёды б яго бараніла!

— А як жа! Цэлымі днямі няма цябе дома, вось і маеш, — не вытрымала Друзьдзева. — Сынок твой распусціўся, як дзедава пуга...

Мацек, убачыўшы, што становішча складаецца на ягоную карысць, бо бацькі перайшлі да ўзаемных парахункаў, ціхенька адступіў у свой пакой. Меў рацыю. Калатнеча працягвалася яшчэ не менш за гадзіну, а калі бацькі ўспомнілі яе прычыну, ён, з галавою накрыўшыся коўдрай, удаваў, што даўно ўжо спіць.

*Чацвер, 24 сакавіка.*
*Варшава.*

— Пане Друзьдзь, — пачаў занепакоены дырэктар ліцэя, у якім ягоны сын вучыўся ўжо тры гады. — Вы, як функцыянер міліцыі, добра разумееце, што сітуацыя, якая склалася, з'яўляецца непрыемнай для нас абодвух. Уласна, мушу далажыць пра гэты... — хвіліну ён падбіраў адпаведнае слова — пра гэты інцыдэнт у месца вашай службы. Вы разумееце, чым бы гэта скончылася. Тлумачэннямі, можа, нават выключэннем Мацька са школы. Але ён разумны хлопец. Навошта яму псаваць сабе жыццё?

— Але што, уласна кажучы, адбылося, пан дырэктар? Ведаю толькі, што справа ідзе пра нейкія ўлёткі, якія некалькі вучняў, і сярод іх мой сын, спрабавалі павесіць учора на калідоры. — Друзьдзь, які ўжо супакоіўся і перадумаў усю справу, вырашыў за ўсялякую цану яе зладзіць.

— Бачу, што не надта дакладна растлумачыў падрабязнасці, бо вы не надаяце праблеме патрэбнае ўвагі. Увогуле, зірніце...

Дырэктар выцягнуў са стала шуфляду і дастаў з яе два запоўненыя друкаваным на машынцы тэкстам аркушы фармату А-4. На першым з іх быў каліграфічна выпісаны загаловак: "Змагарная моладзь — выданне маладзёжных групаў супраціву "Салідарныя". Пасля чытання першых радкоў ужо ён пачуў дрыжыкі неспакою. Справа выглядала больш сур'ёзна, чым ён уяўляў:

"Нашым правам і незнішчальным памкненнем маладых ёсць імкненне да жыцця ў праўдзе і вольнасці. Яго можна перамагчы, яго можна душыць, але яго немагчыма знішчыць у нашых думках. Як і нашы бацькі, мы змагаемся за знішчэнне ярма камуністычнае ўлады, змагаемся за годнае жыццё ў вольнай, незалежнай Польшчы..."

Тое самае пішуць у тых нелегальных выданнях, якія ліквідуе служба, — мільганула ў думках Друзьдзя. Іх аўтары ішлі ў турмы за "распаўсюджванне звестак, што могуць выклікаць грамадскі неспакой". Мацек меў ужо 17 гадоў і яго магло чакаць тое ж.

— Так, вы маеце рацыю, пан дырэктар, — казаў Друзьдзь, адарваўшы зрок ад "самвыдату". — Гэта смярдзіць крыміналам. Я ўжо з Мацекам пагавару.

— Менавіта пра гэта размова. Думаю, што ўсё застанецца паміж намі. Дамовімся, што цяпер я гэтай газеткі не бачыў. Але ў наступны..., — націснуў ён, — вы самі разумееце...

— Вялікае дзякуй, ніколі гэтага не забуду.

Зразумелі адзін аднаго без збытных словаў.

Мінула ўжо другая гадзіна працы, а Друзьдзь яшчэ ні разу не пажартаваў. Калі на працягу наступнай гадзіны не прагучала ніводнай показкі, ужо палова Крымінальнага аддзела ведала: нешта здарылася.

— Захварэў, Петрусь? — занепакоіўся паручнік Яхоўскі. — Што здарылася?

— Здарылася, але не са мной — з маім целам і крывёю. Мацек лезе ў палітыку, а я збіраюся на заўчасную пенсію, — пахмурна растлумачыў Друзьдзь.

— Калі гэта тваё насенне ўсунула ўчора бульбіну ў выхлапную трубу маёй службовай машыны, дык я ўжо пішу рапарт, бо ведаю выканаўца, — усцешыўся капрал Галонзка.

— Цешся, што ён не ўсадзіў тую бульбіну табе ў дупу, — разнерваваўся Друзьдзь, якога крыўдзіла агульнае непаразуменне. — А тую палітыку я яму сам з галавы выб'ю.

— Маеш рацыю, — паляпаў яго па плячы Яхоўскі. — Пагавары з гэтым смаркачом, навошта табе такія клопаты. А, дарэчы... Маю сябрука, які працуе ў "тройцы", ён ведае, хто займаецца школамі ў Варшаве. Калі хочаш, я высветлю, чым пахне ўся гэтая справа.




— Але гэта хоць прыстойны тып? Можна яму давяраць? — спалохаўся Друзьдзь.

— Добры хлопец. Паўгода мы былі разам на курсах у Кекжу і разам хадзілі да дзевак. Нічога нікому не скажа. Дык што, званіць? — спытаў Яхоўскі.

— Можа і маеш рацыю. Паспрабуй даведацца.

Паручнік падцягнуў да сябе тэлефон.

— Анджэй? Славэк з гэтага боку. Слухай, стары, маю да цябе справу. Можам мы сустрэцца сёння?

— ...

— Добра, а пятай. Можна ў "Метраполі", частую. Ну, пакуль.

*Панядзелак, 28 сакавіка.*
*Варшава.*

Да таго, як паручнік Яхоўскі зноў сустрэўся са сваім сябрам з III Аддзела Службы Бяспекі, мінулі тры дні. Анджэй Высокіньскі ўвайшоў у пакой і старанна зачыніў дзверы.

— Ёсць там хто далей? — спытаў ён, падазрона заглянуўшы ў другі пакой.

— Няма нікога! Валі! — запатрабаваў Яхоўскі.

— Славэк, кінь ты гэтую справу, бо хлопцы і табой зацікавяцца. Смаркач замешаны ў нейкай аферы.

— Што ведаеш дакладна?

— Толькі тое, што справа ідзе пра нейкія ўлёткі ці друкарні... Чалавек, які ведае падрабязнасці, нічога не хоча казаць, нават пад мухай. Адзінае, што атрымалася з яго выцягнуць, гэта сведчанне, што яны зрабілі аперацыйную распрацоўку гэтай групы ў школе.

— Халера, — занепакоіўся Яхоўскі. — Нешта маюць?

— Бабка надвае варажыла. Альбо гэта першы этап, які не прывядзе да нічога, альбо...

— Альбо што? Кажы хутчэй, кінь гэтыя таямніцы, — нецярпліва спытаў Яхоўскі.

— Спакойна, сам перапыняеш на паўслове, а потым нервуешся... Падобна, гэтая распрацоўка была часткаю вялікай аперацыі, якая хутка пачнецца. Што табе тлумачыць — сам усё разумееш. Калі раскручваецца справа, патрэбны эфекты. З гаўна робяць аферу, каб занесці ў справаздачу.

— Ну, ты мяне супакоіў!

— Дык навошта ты ў гэта мяшаешся? Мала маеш клопатаў? Хочаш мець новыя? Прызнайся, даражэнькі, можа гэта вынік грахоў маладосці? — Высокіньскі прыжмурыў вока.

— Ідыёт, — абразіўся Яхоўскі. — Не казаў табе, хто гэта? — Сын майго лепшага сябра з Аддзела, Пётрака Друзьдзя, ведаеш яго?

— А, ведаю, гэты тоўсты, — кіўком галавы пацвердзіў Высокіньскі.

— Ну, так. І цяпер Пётрак мае клопат і не ведае, як з яго выблытацца, бо ягоны гаўнюк уявіў сябе дарослым: ведае што робіць і нікога гэта не павінна датычыць.

— А колькі мае год?

— Хто, бацька?

— Не, сын.

— Семнаццаць.

— Не можа ўзяць дзягу і добра яму ўлупіць?

— Бадай, можа, але баіцца, што хлопец яму на злосць яшчэ больш улезе ў гэтую справу. І што, не дапаможаш сябру? Дык хто яму дапаможа? — звярнуўся Яхоўскі да ягонага пачуцця прафесійнай салідарнасці.

— Ці я кажу не? Не ведаў, што гэта наш, — бараніўся Высокіньскі. — Трэба нешта зрабіць, канешне. А калі б так: гэтага маладога, ну як там яго...

— Друзьдзя, — падказаў Яхоўскі.

— Так. Друзьдзя, выклікаць у міліцыю, але не ў палац, а ў пастарунак, каб ведаў, што бацька далёка, і добра яго пастрашыць — што ведаеце шмат пра яго і аб ягонай дзейнасці, каб своечасова адышоў...

— Можа гэта і нядрэнная задума? — згадзіўся Яхоўскі. — Пагавару пра гэта з ягоным бацькам. А табе, Анджэй, сардэчная падзяка.

— Не, дзякуй. У выпадку чаго разлічваю на цябе. Урэшце, мая Агнешка ўжо мае трынаццаць гадоў, а дзяўчыны ў такім узросце могуць мець свае праблемы.

— Аб чым ты кажаш? Абяцаю прафесійную дапамогу як узорны прыхільнік педагагічных метадаў, — засмяяўся Яхоўскі.

## РАЗДЗЕЛ 6

*Нядзеля, 27 сакавіка 1983 г.*
*Варшава.*

Гэтым разам сустрэліся ў Атвоцкіх лясах. Сакратар Краеўскі з прыемнасцю ўдыхнуў свежае паветра. Усё ж нешта ёсць у гэтых плётках аб забруджанні паветра ў Варшаве, падумаў ён. Нават гаварылі пра гэта на апошнім пасяджэнні Палітбюро. Сродкаў, на жаль, не мелі.

— Я абдумаў ваш план, палкоўнік, і палічыў яго амаль дасканалым, — сказаў ён. — Выкарыстанне "Пеўня" нам нічым не пагражае. Атрымаць усё патрэбнае для рэалізацыі плана таксама не вельмі складана. Нашыя сябры ў стане зрабіць рэчы значна больш складаныя. Маюць папросту залатыя рукі. Трэба толькі вызначыць месца і час, а копія трапіць куды трэба. Бачу толькі адну праблему — гэтага вашага "Крата".

— Але ж, таварыш сакратар, гэта мой найлепшы агент! Працую з ім пяць гадоў ужо, за гэты час ён не адмовіў ані разу, а ягонае становішча дапаможа пазбегнуць усялякіх цяжкасцей з набліжэннем да аб'екта ў патрэбны час, — аспрэчыў яго падпалкоўнік Гураль.

— Не спяшайцеся, палкоўнік. Тут трэба дзейнічаць беспамылкова. У вашага "Крата" я бачу дзве слабасці. Па-першае, іншая рэч — шантажыраваць біскупа за ягонае "сяброўства" з міністрантамі, але нашае заданне... Чалавек, які за гэта возьмецца, нават толькі здагадваючыся, аб чым ідзе размова, павінен мець магчымасць усё выйграць, нічога не страціўшы. Гэта мусіць быць чалавек давераны і правераны. Цалкам наш! Па-другое, — працягваў ён тонам настаўніка, які тлумачыць вучню цяжкае заданне, — ёсць верагоднасць (хай нават мізэрная, але ад таго не менш небяспечная) адкрыцця сувязі гэтага "Крата" з вамі.

— Таварыш сакратар, — Гураля зачапіў дыдактычны тон суразмоўцы. — Я разумею пэўную, якую я вызначаю як мінімальную, слабасць гэтага пункта. Але лепшага чалавека я папросту не маю. Таму калі вы згаджаецеся з канцэпцыяй...

— Вам нецікава, ці магу нешта прапанаваць я сам? Напрыклад, чалавека, лепшага за "Крата"?

— Вы маеце ў міністэрстве сваіх людзей, — не здзівіўся Гураль.

— І некалькі тэчак з паперамі, якія, заходзячы, я забраў з архіва і пра якія ніхто не ўзгадае. Іх сабраў маёр Загурскі, які чатыры гады таму загінуў у дарожнай катастрофе. Гэта мае, так бы мовіць, страхавыя полісы, — пахмурна пажартаваў ён. — Пазнаёмцеся са зместам гэтай, — падаў ён Гуралю пластыкавую тэчку, якую дагэтуль трымаў пад пахаю. — Яе змест у адпаведным часе будзе пераказаны журналістам, замежным, зразумела. Гэта — дакументы пра сувязь МУС і Кішчака з маючым быць схопленым выканаўцам замаху. Схопленага, як кажуць амерыканцы, з дымячым пісталетам у руцэ, што не выкліча ніякіх падазрэнняў. Цяпер я лічу ваш план дасканалым, — скончыў ён.

Вярнуўшыся дадому, падпалкоўнік Гураль зачыніўся ў сваім кабінеце і з атрыманай ім пластыкавай тэчкі выцягнуў іншую — папяровую, зялёнага колеру тэчку агента. На вокладцы было старанна выпісана імя: "Давід".

Студэнцкая маніфестацыя 8 сакавіка 1968 года на пляцоўцы Варшаўскага універсітэта, прычынай якой было адлічэнне з універсітэта як "не дастойных звання варшаўскага студэнта" Адама Міхніка і Гэнрыка Шляйфэра, хутка ператварылася ў акцыю збівання. Паліцыя шалела, хапаючы ўсіх без разбору. Менавіта тады некалькі чалавек, што выйшлі з аўтобуса, які спыніўся на прыпынку насупраць брамы універсітэта, не паспеўшы зрабіць нават некалькі крокаў, былі затрыманыя паліцыяй і пасаджаныя ў патрульныя машыны.

Сярод затрыманых у той дзень быў Леон Кваткоўскі, студэнт першага курса Варшаўскага універсітэта. На маніфестацыю ён пайшоў толькі з намовы калег. Пра справу Міхніка і Шляйфэра даведаўся ўпершыню. Ён і сапраўды не ведаў, у чым была справа, але калі тых двух выкінулі без падставы, ён з пачуцця салідарнасці пачаў абараняць іх.

Так як і іншыя, ён выгукваў лозунг "Прэса маніць". Гэтак як і іншыя, не слухаў загадаў паліцыі пасля таго, як сход пачаў рабіцца ўсё больш спалітызаваным... Потым на іх націснуў "рабочы актыў" варшаўскіх заводаў, узброены паліцэйскімі дручкамі. Білі направа і налева — як патрапіць. Ён крычаў ад болю, калі яго білі 70-сантыметровымі гумавымі палкамі з металічным тросам усярэдзіне — па карку, па плячах, па галаве... Потым умяшалася паліцыя, паспяхова працягнуўшы акцыю суцішэння.

Яны бараніліся, гэта было нармальнай чалавечай рэакцыяй перад небяспекай. Але бараніліся вельмі нядоўга. Ужо праз некалькі хвіль пасля ўмяшання рабочага актыву кожны з іх як мог шукаў паратунку. Кваткоўскі не памятаў дакладна, што рабіў тады. Можа, як нехта з ягоных сяброў, у бяссільным адчаі ўдарыў кагосьці з нападаючых, можа, схапіў камень і кінуў ім у "работнікаў". Затое добра запомніў момант, калі невядома скуль ля яго ўзніклі тры рослыя мужчыны, якія ўмомант скруцілі яго і скавалі рукі кайданамі. Усё адбылося так хутка і нечакана, што нават не спрабаваў аказаць супраціўлення. Гэта ўратавала яго ад дадатковага біцця па дарозе да патрульнай машыны.

Цэлы шэраг блакітных "варанкоў" ужо стаяў у адной з вулічак паблізу універсітэта. Першы раз атрымаў тады, калі нязграбна ўлазіў у міліцэйскі "Стар". Тры моцныя ўдары ў плечы і яшчэ адзін, з усяе сілы, у азадак. Ён завыў, са скрыўленых ад болю вуснаў вырваўся крык "Ратунку!"

— Прымі морду, паскуда! — рыкнуў нехта ў цывільным і на паўхвіліны прычыніў заднія дзверцы машыны.

На працягу некалькіх наступных хвілін у машыне прыбывала наступных удзельнікаў акцыі. Асобныя былі ўжо добра збітыя. Калі кузаў запоўніўся, іх адвезлі, але недалёка — у Палац Мастоўскіх.

Там усіх перапісалі і размеркавалі па арыштанцкіх каморах.

— Усе вы затрыманыя на 48 гадзін да высвятлення, — растлумачыў ім нехта ў цывільным, пасля чаго стражнік хуценька зачыніў металёвыя дзверы і з грукатам засунуў завалу.

У дзесяцімясцовай каморы знаходзілася амаль сорак чалавек. Пераважную большасць складалі студэнты, але там яшчэ знаходзілася некалькі цалкам выпадкова затрыманых асобаў: самай цяжкай была першая ноч, праведзеная за кратамі. Замест падушкі ў каморы была драўляная калодка, коўдру замянялі плашч альбо куртка. Яны ляжалі сціснуўшыся, не маючы магчымасці нават варухнуцца.

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

(Працяг будзе).

## Лік на табло

У Брусэлі закончыўся чэмпіянат свету па мастацкай гімнастыцы. Удала выступіла выхаванка трэнераў Галіны Крыленка і Ірыны Лепарскай мінчанка Ларыса Лук'яненка. Яна заваявала два залатыя медалі ў асобных практыкаваннях і бронзавы ў мнагабор'і, прапусціўшы на першыя дзве прыступкі п'едэстала Аксану Косціну (Расія) і Марыну Петраву (Балгарыя).

* * *

Пасля перамогі над рыжанамі ў чарговым этапе Кубка Міжнацыянальнай хакейнай лігі мінскія дынамаўцы двойчы прайгралі. Але на гэты раз з мінімальнай розніцай, з даволі высокай выніковасцю і ва ўпартай барацьбе. Спачатку на сваёй пляцоўцы санкт-пецярбургскаму СКА – 3:4, потым у Маскве "Спартаку" – 4:5. У Андрэя Сідарэнкі выдатны шанц павысіць свой трэнерскі рэйтынг у сённяшняй гульні ў Мінскім Палацы спорту супраць ЦСКА. Маскоўскі армейскі клуб зараз на апошнім радку табліцы ў канферэнцыі "Захад" і, дарэчы, у апошняй сустрэчы прайграў у Санкт-Пецярбургу таму ж СКА – 2:3.

* * *

Як вы ведаеце, удала гуляюць у першай зоне адкрытага хакейнага першынства Расіі гродзенскі "Нёман" і наваполацкі "Хімік". Апошнія чатыры сустрэчы нашы каманды гулялі паміж сабой. Абодва матчы ў Наваполацку закончыліся ўнічыю – 1:1 і 3:3. Двойчы на сваёй пляцоўцы перамог землякоў "Нёман" – 4:1 і 7:1. Гродзенцы – патэнцыяльныя лідэры турніру.

* * *

У чэмпіянаце Аўстрыі падыходзіць да заканчэння першы этап. У чарговай дамашняй сустрэчы венскі "Рапід" згуляў унічыю з зальцбургскай "Аўстрыяй" – 2:2. Славуты венскі клуб адстае пакуль ад лідэра – цірольскага "Вакера" на чатыры ачкі, але пасля першага этапа набраныя камандамі ачкі падзеляцца папалам і адрыў стане зусім невялікі – толькі два. Аляксандр Мятліцкі ў апошніх матчах этапа не гуляе з-за дыскваліфікацыі. Дарэчы, ён ўжо збіраецца ў адпачынак дадому.

* * *

У нядзелю адбудзецца сустрэча жаночай валейбольнай зборнай Беларусі з нацыянальнай камандай Эстоніі ў межах адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы. Аматараў гэтага віду чакаюць а 16 гадзіне ў Мінскім Палацы спорту.

*Баскетбол*

# АДЗІН МАТЧ — НА ДВА ТУРНІРЫ

## "РТІ" (Мінск) – "Атлетас" (Каўнас) – 111:76



У гульні вышэй за ўсіх – Валерый ДАЙНЕКА.

Тыдзень таму мінскі "РТІ" правёў першую дамашнюю сустрэчу чэмпіянату Міжнароднай прафесійнай баскетбольнай лігі. І паказаўся перад сваімі балельшчыкамі ў найлепшым выглядзе. Да поўнасцю баявога складу мінчанам не хапала толькі траўміраванага Георгія Бачкова. Лепшым на пляцоўцы быў у гэты дзень яго партнёр па былой зборнай Саюза Валерый Дайнека. Перад матчам, дарэчы, карэспандэнт штотыднёвіка "Прессбол" Аляксандр Дабрыян уручыў Валерыю прыз як лепшаму баскетбалісту Беларусі мінулага сезона. А той у адказ так моцна пачаў сустрэчу, зарабіўшы ў першай дзесяцімінутцы трынаццаць ачкоў, што трэнер "РТІ" Аляксандр Барысаў быў вымушаны... усё часцей прысаджваць яго на лаўку запасных. Ужо пасля гэтага міні-тайма лік стаў 33:19 на карысць мінчан. Яны значна пераўзыходзілі класам літоўскую каманду. Але гэта не значыць, што "Атлетас" — слабая каманда. Літоўскі баскетбол наогул вельмі моцны, а тое, што ў Каўнасе разам з "Жальгірысам" існуе яшчэ адзін моцны клуб, — вельмі значны доказ гэтага. Проста "РТІ" сапраўды зараз гуляе вельмі моцна. Нашым у гульні ўдавалася ўсё — і падборы, і перахопы, і трохачковыя кідкі. Чатыры дальнія кідкі на рахунку Руслана Байдакова, тры закінуў Андрэй Клемезь. Таксама моцна, як Дайнека ў першай, стартаваў у трэцяй дзесяцімінутцы Байдакоў. Ён за гэты адрэзак унёс у клубную скарбонку пятнаццаць ачкоў. За ўвесь матч яго паказчык — 22 ачкі, толькі на ачко менш у Дайнекі. Заканчваў гульню ў асноўным маладзёжны склад "РТІ".

Адначасова вынік гэтай сустрэчы пайшоў у залік міжнароднага турніру, які, скарыстаўшы прыезд літоўскай каманды ў Мінск, арганізавала яшчэ адна мінская каманда "ЭНКА—РШВСМ". Чацвёртым удзельнікам была запрошана эстонская каманда "АСТО" (Талін). У той жа дзень у той жа зале "ЭНКА" перайграла "АСТО" — 82:70.

У наступныя выхадныя турнір пераехаў у Барысаў. "Атлетас" выйграў у "АСТО" — 100:88 і... пакінуў беларускую зямлю, так і не правёўшы гульню з "ЭНКАй". А вось сустрэча дзвюх мінскіх каманд (дарэчы, першая ў іх гісторыі) стала сапраўдным упрыгажэннем. Нават першая палова сустрэчы закончылася зусім нязначнай перавагай "РТІ" — 42:41. Хаця і прайграла "ЭНКА" ў рэшце рэшт (67:97), але аказала дастойнае супраціўленне фаварыту, і перш за ўсё дзякуючы намаганням амерыканскага баскетбаліста Крыса Элзі (на яго рахунку — 33 ачкі). Для прыкладу, Дайнека, самы выніковы ў складзе "РТІ", зарабіў толькі 29.



Гуляе "ЭНКА". Злева – Крыс ЭЛЗІ.

Закончыўся турнір у нядзелю сустрэчай "РТІ" і "АСТО". Перамаглі мінчане і ў матчы (89:70) і ў турніры. Вельмі цікава вось так паглядзець прыгожы баскетбол. Дзякуй, "ЭНКА"!

**Фота Аляксея МАЦЮША і Генадзя СЯМЁНАВА.**

Старонку падрыхтаваў спартыўны агляддальнік Яўген ПУЧКОЎ.

*Шахматы*

# ЧАЛАВЕК ГОДА



*Безумоўна, галоўнай шахматнай падзеяй года стаў "матч-рэванш стагоддзя" паміж Робертам Фішэрам і Барысам Спаскім. Хаця і быў ён вельмі цікавым і запамінальным, нагадаў усё ж спаборніцтвы ветэранаў. Чэмпіёнам свету сярод іх быў, дарэчы, у мінулым годзе Васіль Смыслоў, а ў гэтым стаў Яфім Гелер. Такі вось удалы поступ ветэранаў расійскай школы.*

*А сённяшні дзень і, зразумела, будучае ў шахматах належыць маладым. Яны прымаюць удзел у шматлікіх турнірах, якія нават з нахлёстам змяняюць адзін аднаго. Маладыя ўсё часцей гуляюць у "хуткія" шахматы, раз-пораз перамагаючы былых чэмпіёнаў свету.*

*Ва ўсіх буйных міжнародных турнірах на першых ролях наш гросмайстар Барыс Гельфанд. Вельмі моцны склад удзельнікаў сабраў мемарыял Аляксандра Алехіна, прысвечаны стагоддзю з дня нараджэння першага рускага чэмпіёна свету. Лідэр — зноў жа наш зямляк. Ён у бліскучым стылі перамог індыйца Вішванатана Ананда і экс-чэмпіёна Анатоля Карпава, згуляў унічыю з Артурам Юсупавым. Калі мы рыхтавалі нумар, партыя Гельфанда з Аляксеем Шыравым з Латвіі была адкладзена. Сёння турнір павінен завяршыцца. Нас, зразумела, цікавіць пытанне, ці здолее захаваць лідэрства Барыс.*

*На яго рахунку ў гэтым годзе ўжо некалькі важкіх грашовых прызоў. Здаецца, ён замахнуўся яшчэ на адзін, бо пераможца мемарыялу Алехіна атрымае дваццаць тысяч даляраў. Як кажуць у адной вядомай радыёрэкламе, "Калі вы дзелавы чалавек — ваш часопіс "Деловые люди"!".*

# ГАРЧЫЧНІК







*УВАГА: ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ!*

## ВЕРНІСАЖ «ГАРЧЫЧНІКА»

Вернісажамі сёння нікога не здзівіш: і ў прапыленых акадэмічных выставах і ў абстракцыянісцкіх шоу цяпер аднолькава мала наведвальнікаў. Час, як кажуць, не той. Тым не менш "Гарчычнік" адважыўся займець свой вернісаж, не хвалюючыся за колькасць гледачоў-чытачоў. Бо "выстаўляцца" ў ім будуць беларускія мастакі-карыкатурысты і фотамайстры, якія працуюць у жанры фотагумару.

А адкрывае наш вернісаж мастак-карыкатурыст Віктар ДУБОВІК.


















Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс на 1992 г. — 63906, на 1993 — 63129. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар
Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 48.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12